Камісія ў Семяноўцы →3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Алімпіяда беларускай мовы →8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 14 (2916) Год LVII | Беласток, 1 красавіка 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# 25 сакавіка - наша свята, Пароль і Прысяга

**Верш Рыгора Барадуліна ў выкананні вучняў Бельскага белліцэя прагучаў на святкаванні Дня волі ў Беластоку — у 94-я ўгодкі з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Святкаванне Дня Волі ў Польшчы было адноўлена ў сярэдзіне 1980-х гадоў беларускімі студэнтамі ў Варшаве і з таго часу адзначаецца кожны год. У нядзелю, 25 сакавіка, у Беларусі і ў свеце адзначалі Дзень Волі.**



Дашкольнікі з садка н-р 14 у Беластоку

25 сакавіка 1918 года была прынята Трэцяя Устаўная Грамата Беларускай Народнай Рэспублікі, якая абвяшчала нашу краіну незалежнай дзяржавай. Хаця маладая рэспубліка існавала кораткa, пасля гэтага і Захаду, і Усходу стала немагчыма ігнараваць дзяржаўныя памкненні беларускага народа. Гэтае адзначаюць не ўсе беларусы. У некаторых гарадах Беларусі святкаванні не былі дазволены. У Мінску дазволена было шэсце ад Акадэміі навук да плошчы Бангалор. У Віцебску і Гродне, дзе мітынгі не дазволены, беларусы ўскладалі кветкі да мемарыяльных дошак і помнікаў Васілю Быкаву, Янку Купалу, Уладзіміру Караткевічу. У Гомелі палітыкі і грамадскія актывісты правялі 25 сакавіка трэцюю сесію Народнага сходу, дзе агучана праграма „За справядлівыя выбары!". Лідар руху „За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч заклікаў усіх беларусаў годна адсвяткаваць Дзень незалежнасці, які павінен яднаць народ без уплыву на палітычныя погляды: „Гэта наш маральны доўг. У гэты дзень няма чаго дзяліць: адна зямля, адзін народ. Я заклікаю ўсіх, каб прадэманстравалі падтрымку будучыні еўрапейскай Беларусі, незалежнасці нашай краіны".

У Беластоку святкаванні Дня Волі пачаліся 23 сакавіка ў Склепе з культурай Аб'яднання АБ-БА ў Беластоку. У рамках Дыскусійнага клуба „Пагаворым пра паэзію Віктара Шведа" адбылася гутарка з паэтам, ставіўся спектакль на яго вершы „Вучыся. Вучыся? Вучыся!" у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр", былі паказаны фільм Міколы Ваўранюка пра Віктара Шведа і здымкі Вальдэмара Квяткоўскага. 24 сакавіка ў Тэатральнай акадэміі ў Беластоку паказана была „Цацачная крама" — спектакль у выкананні ўдзельнікаў тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр". 25 сакавіка, раніцай у нядзелю, у царкве Агія Сафія ў Беластоку адслужылася Св. Літургія, а пасля Літургіі — малебен за беларускі народ. Напрыканцы ўсе праспявалі гімн „Магутны Божа". Малебен за беларускі народ адслужыў айцец Анатоль Конах (у царкве Агія Саофія кожную нядзелю чытаюць Евангелле на беларускай мове). У 14.00 у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры „Сподкі" праведзена была ўрачыстая вечарына, сарганізаваная згуртаваннем АБ-БА, Радыё Рацыя, „Нівай" і Беларускім саюзам у Польшчы, з мастацкай праграмай дашкольнікаў (парыхтаваных Эвай Гняздоўскай і Альжбетай Баравік) і вучняў з Беластока (молодзь рыхтавала настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк) ды ліцэістаў з Бельска-Падляшскага (пад кіраўніцтвам Іаанны Хількевіч і Яўгеніі Таранта), з дакументальным кіно Міколы Ваўранюка, прысвечаным Алесю Бяляцкаму і апошнім прэзідэнцкім выбарам у Беларусі.



Злева: Марцін Рэмбач, Сцяпан Копа, Мірaслаў Пякарскі

Старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа:

— Традыцыйна ўшаноўваем людзей, якія ўносяць свой уклад у жыццё нашай меншасці, прэзентуем тых, на якіх будзе спачываць адказнасць за нашыя дзеянні ў будучыні — дзяцей і моладзь.

Як штогод арганізатары ўручылі адмысловыя ўзнагароды, бел-чырвона-белыя букеты асобам, якія працуюць для развіцця беларушчыны на Падляшшы. Сёлета гэтае вылучэнне атрымалі аніматар культуры, фалькларыст Сцяпан Копа, Марцін Рэмбач — перакладчык, старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь ды Міраслаў Пякарскі, які на працягу многіх гадоў паспяхова дапамагае ў рэалізацыі беларускіх ініцыятыў.

У 94-я ўгодкі з дня абвяшчэння незалежнасці БНР Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР, якая пражывае ў Канадзе, пажадала суродзічам перш за ўсё дабрабыту і годнасці:

— Віншую ўсіх з нашым вялікім святам, якое святкуецца ва ўсім свеце беларусамі. Усе цэняць гэты дзень. Гэта беларускі народ стварыў гэтае свята, гэта беларускі народ абвясціў сваю незалежнасць. Віншую беларускі народ. Віншую тых, хто не баіцца сказаць, што стаіць на грунце ідэалаў гэтага свята. Віншую ўсіх, хто на дадзены момант нешта робіць, каб адсвяткаваць гэты дзень належна і годна. Прыйдзе час, што і беларусы здабудуць волю і вернуцца ў еўрапейскую сям'ю народаў. Каб гэтага дабіцца, трэба пазбавіцца страху і паверыць, што мы народ здольны на подзвігі. Жыве Беларусь!



Вучні з ПШ н-р 4 з Беластока



Ліцэісты з Бельска-Падляшскага

У час свята ў многіх мясцовасцях Беларусі пачаліся затрыманні, а ў панядзелак суды. У Мінску, нягледзячы на вельмі кепскае надвор'е, мерапрыемства атрымалася шматлюдным. Ад Акадэміі навук да плошчы Бангалор прыйшло пяць тысяч чалавек. Людзі скандавалі „Не быць скотам!". У шэсці ўдзельнічалі Аляксей Марачкін, Віталь Рымашэўскі, Віктар Карняенка, Аляксандр Мілінкевіч, Іна Кулей, лідар „Справядлівага свету" Сяргей Калякін, жонка палітвязня Сяргея Каваленкі, Алена, бацька Ірыны Халіп Уладзімір Халіп, былы кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў.

Імпрэзы і набажэнствы з нагоды Дня Волі адбыліся ў Гданьску, Варшаве, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі і іншых краінах Еўропы і ў Амерыцы.

9 770546 196000



# А што пасля?

На Дзень Волі еду з кветкамі і фотаапаратам да чыгуначнага вакзала. Ужо праз шыбу па ўсім перыметры заўважаю шмат суб'ектаў характэрнай знешнасці. Выходжу на прыпынку каля аптэкі. Адразу падлятаюць двое ў цывільным, хапаюць за рукі, адзін паказвае пасведчанне міліцыянта і безапеляцыйна прапануе ехаць з імі ў пастарунак. Цягнуць у машыну і вязуць у аддзяленне на вуліцу Гараднічанскую. Там па нейкай абсурднай прыдумцы бяруць у мяне тлумачэнні: куды і чаго я ішоў. Урэшце досыць нечакана хутка адпускаюць. Пад пастарункам, што надзвычай прыемна, мяне ўжо сустракаюць каля двух дзесяткаў нашых гарадзенскіх адраджэнцаў, якія ўжо ўсклалі кветкі да мемарыяльнай шыльды паўстанцам на вакзале, а пасля выявілі сапраўдную салідарнасць і не пабаяліся прыйсці мяне „вызваляць". Ідзем далей разам ускладаць кветкі да іншых беларускіх адрасоў і помнікаў, але настрой ужо крыху сапсаваны...

Сёлета грамадска-палітычныя актывісты з Гарадзеншчыны — слонімскія, лідскія, свіслацкія, мастоўскія — як маглі годна адсвяткавалі Дзень Волі. Нехта прыбраў помнікі, нехта ўсклаў кветкі, нехта правёў футбольны міні-турнір, а нехта павывешваў і бел-чырвона-белыя сцягі над сваімі дамамі. Большая ж частка грамадства і не ведае, што святкавалі беларусы ўсяго свету ў гэты дзень. Не ведае, бо не хоча ведаць. „Звычайныя людзі" дагэтуль не ўсведамляюць каштоўнасці сваёй дзяржавы, вартасці гістарычных дат і нацыянальных сімвалаў. І таму яны па-ранейшаму будуць душыцца ў чэргах па таннейшае малако, ці пад консульствамі, каб атрымаць візу за мяжу, ці ўжо гадзінамі стаяць на гэтай мяжы, ці сядзець і корпацца ў зямлі, не разгінаючы спіну.

Дзень 25 сакавіка бягучага года чарговы раз засведчыў той стан, у якім апынулася Рэспубліка Беларусь у выніку шматгадовага кіравання Аляксандра Лукашэнкі. Стан гэты можна акрэсліць як „самаакупацыя". Беларусь, якая дэклараваная незалежнай краінай, у якой ёсць Канстытуцыя, што нібыта гарантуе грамадзянскія правы, няма права ў карэннай нацыі беларусаў на нацыянальнае выяўленне. Розныя акупанты ў розныя часы дазвалялі тытульнай нацыі больш, чым сённяшняя „беларуская" ўлада. І што яна думае рабіць далей? Трымаць у заложніках 10 мільёнаў насельніцтва, ствараць канцэнтрацыйныя лагеры для тых, хто хоча і імкнецца „людзьмі звацца", знішчаць фізічна тысячы сваіх грамадзян?

Дзяржаўная ўлада Рэспублікі Беларусь, яе кіраўнікі і прадстаўнікі жывуць паводле прынцыпу, сфармуляванага яшчэ ў старажытнасці — „пасля нас хоць патоп". Дзеля ўтрымання сваёй улады „тут і сёння" яна гатовая на ўсё. А між тым Аляксандру Лукашэнку і яго бліжэйшаму атачэнню яшчэ не позна схамянуцца, спыніць палітычныя рэпрэсіі, пачаць грамадзянскі дыялог і рэформы. Бо найбольшыя заложнікі такога стану рэчаў у дзяржаве — яны самі. Гэта ў іх найперш пры такой знешняй і ўнутранай палітыцы няма ніякай будучыні.

Што датычыць бальшыні апазіцыі, то яна слаба асэнсоўвае сваю місію, пераважна дрэйфуючы па волі хваляў, часам плывучы ім насуперак, але не заглядваючы наперад. Словам, „зменім уладу, а там неяк разбярэмся, неяк дамо рады". І, нягледзячы на высокі інтэлектуальны патэнцыял, публічна так і не прапанавана ніякіх сур'ёзных праграм рэфармавання краіны. На маю думку, дэмакратычная апазіцыя ва ўмовах, калі незалежнасць краіны пад пагрозай знішчэння як Расіяй, паглынання ўсходнім агрэсіўным суседам, мусіць сфармуляваць свае прапановы кіраўніцтву краіны. А менавіта прапанаваць Лукашэнку і яго сям'і гарантыі асабістай недатыкальнасці пры ўмове мірнага і канстытуцыйнага зыходу ў адстаўку, надалей больш настойліва і паслядоўна патрабаваць вызвалення палітвязняў, дамагацца перамоваў і агульнанацыянальнага „круглага стала", стварэння пераходнага кааліцыйнага ўрада, распрацаваць максімальна справядлівы закон аб люстрацыі. Дэмакратычная апазіцыя не мусіць гуляць у розныя гульні паводле чужых сцэнарыяў, кшталту „выбараў у парламент". Скажаце, што ўсё гэта ўтапічна? Магчыма, але калі гэтага не зрабіць, то тады шанцаў на змены да лепшага не будзе дакладна.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Тлум ёсць з намі



У перапоўнены вагон нью-йоркскага метро ўвайшоў бум. Бум у амерыканскім слэнгу гэта гарадскі валацуга, які спіць (дасл. лоўна) на вуліцы, бомж, авантурыст — „вольная птушка", на якога ў нас кажуць „бяздомны". Божачкі, як ён смярдзеў! Пасажыры зварухнуліся субтыльтна, ды маланкава. Раскруціліся іхнія насы, разбегаліся вочы, шукаючы ў чалавечым натоўпе ўцёкаў, час ад часу паглядам найпрост — рэдкім у публічных месцах актам адкрыцця — сустракаліся ў намякаючым кодзе і адразу ўцякалі адно ад аднаго, назначаючы кожную асобу складкамі на лобе, якія папярэджваюць важкае, ды самотнае рашэнне — падацца адсюль як найдалей, як найхутчэй! Ды так, каб нікому не здалося гэта лішне паказным. Нью-йоркская культура талерантнасці, фарматуючая паводзіны людзей амаль да ўзроўню безумоўнага рэфлексу, тут стала ў глыбокім дыскамфорце пры фізіялагічнай гідлівасці, якую выклікаў смурод бума. Ігнараванне „іншасці" — гэта галоўная рыса нью-йоркскай талерантнасці. Ды як тут „не прыкмячаць" смуроду? Незалежна ад гэтага, ніхто не наважыўся паказаць буму пагарды ці абурэння. У Еўропе, у Польшчы калючым, каб не сказаць хамскім, заўвагам у такой сітуацыі не было б канца. Нью-Йорк па гэтай прыкмеце проста незвычайны. Тут ставіцца на індывідуальныя выбары і рашэнні, за якія адказваецца ў кожным аспекце жыцця, месца і часу. Асабістая свабода для ўсіх, якую гарантуе амерыканскі закон, балансуецца індывідуальнай адказнасцю за свае рашэнні. Ёсць толькі „так" або „не", няма сярэдніх формаў. Закон не забараняе смярдзець. Ды забараняе абражаць чалавека. Дык вось чалавечы смурод мае такія правы, як і ён сам. Калі каму мяшае смурод, няхай адыдзе ад яго крыніцы. На наступным прыпынку вагон хутка апусцеў. Засталіся толькі мы ўдвух, я і бум.

Бум смярдзеў, а я стрымліваўся ад ванітаў. Бум не зважаў на рэакцыі людзей, якія, уваходзячы бадзёрым крокам у вагон, адразу выскоквалі на перон. Частаваўся чымсьці з пластыкавага латка, карыстаючыся, а як жа, пластыкавымі сталовымі прыборамі. Я ўрэшце даехаў да „свайго" прыпынку. „Гэй!" — развітаўся са мною бум, прыязна памахаўшы далонню, у якой трымаў відэльчык. Нанізаны на яго кончык носа кавалак мяса спываў кетчупам. „Гэй!" — бум махнуў відэльчыкам у бок уваходзячага мужчыны. Можа мне толькі здавалася, што ад набітага на відэлец мяска адарвалася чырвоная кропля кетчупу і капнула на лоб пасажыра. „Гэй!" — аўтаматам адказаў ён буму, крадком шмаргануўшы носам. А тлустая плямка на яго лобе бліснула як стыгмат. Невядома мне, ці застаўся ён з бумам, таму што зачыніліся за ім дзверы вагона, ці захацеў з ім застацца. Стыгматызм урэшце ж да чагосьці забавязвае!

Пагружаны з галавой у чалавечую масу, я кіраваўся да выхаду з метро. З-за нясцерпнай павольнасці, з якой яна сунулася, пакрыкваў на тых, што ішлі спераду. Можна сказаць, што я ўтапіўся ў натоўпе. Той/тая спыняліся, тлумачышы прычыны, з-за якіх не могуць ісці хутчэй. Даводзіла гэта да хвіліннай непраходнасці, якая ішоўшых за мною даводзіла да кіпення. Гэтая дыскусія не мела сэнсу. Дыскусія з натоўпам не мае толку. Тлум, з-за сваёй непазначанай масы — пасіўны, ды скумуляваная ў ім энергія іскрыцца паміж людзьмі. Адзіным спосабам выжыцця ў тлуме з'яўляецца ментальная ізаляцыя ад яго. Ды ці гэта магчыма? Трэба ж пільнаваць адпаведнага метрума крокаў, каб не выпасці з роўнапрыспешанага руху, якім сунецца натоўп. Трэба таксама ўмела прыпыніцца, не страціўшы прытым гатоўнасці да маланкавага зраўнання з рухам шматгаловай масы, калі міжвольнае спатыканне таго, што ідзе спераду, генеруе калапс здарэнняў ішоўшых ззаду. Ніколі невядома, калі тлум спыніцца або калі пакоціцца ўперад. Калі ён спакойны, трэба захаваць спакой. Тлум у істэрыцы не з'яўляецца пагрозлівым, пакуль не супрацьставішся ягонай істэрыцы. Трэба кіравацца за натоўпам. Хто ўпадзе, таго здратуюць. Хто спыніцца, таго перакуляць. Трэба пазбыцца згрызот сумлення. У натоўпу няма сумлення. У тлуме няма месца на індывідуальнае пачуццё віны. Можа таму, бышы ў тлуме, становімся абыякавымі для несправядлівасці і крыўды іншага чалавека. Бум гэта чалавек. Няма для яго месца пасярод натоўпу. І нідзе пасярод людзей. Таму бум звольнены ад адказнасці за людзей, а людзі — за бума. І такая ёсць мерка чалавечай свабоды.

**Мірaслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Нас крыху меншае



Калі 22 сакавіка дэпутаты сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей сустрэліся ў Семяноўцы з самаўрадаўцамі Гайнаўскага павета, у Варшаве пры ўдзеле прэзідэнта Браніслава Камароўскага і іншых найвышэйшых польскіх улад ды Еўрапейскай камісіі працягваўся II Дэмаграфічны кангрэс „Польшча ў Еўропе — дэмаграфічная будучыня". Якраз у той час Галоўная статыстычная ўстанова (ГСУ) падала асноўныя інфармацыі аб дэмаграфічна-грамадскай сітуацыі насельніцтва ў Польшчы і жылых рэсурсах. Прасцей, прадстаўлены былі ўступныя вынікі мінулагодняга Нацыянальнага перапісу насельніцтва. У гэтым дакуменце ў трыццаць старонак, пакуль у вельмі скарочанай форме, прадстаўлена інфармацыя аб нацыянальна-этнічнай прыналежнасці грамадзян Польшчы; дэталі маюць быць вядомыя раннім летам. У гэтым пункце ГСУ адзначыла: „У перапісе насельніцтва 2011 г. першы раз у гісторыі польскіх перапісаў была дадзеная магчымасць жыхарам Польшчы выказаць складаныя нацыянальна-этнічныя тоеснасці шляхам пастаўлення двух пытанняў пра нацыянальна-этнічную прыналежнасць". Як паінфармавалі працаўнікі ГСУ, магчымасцю выказання падвойнай этнічнай тоеснасці пакарысталася 871 тыс. асоб, а сярод жыхароў Польшчы дамінуе насельніцтва з аднароднай польскай нацыянальнай тоеснасцю, ахопліваючае 91,6 прац. грамадства. У сваю чаргу 834 тыс (2,17 прац.) мае заадно як польскую, так і іншую няпольскую нацыянальна-этнічную тоеснасць. Затое дэкларуючыя выключна няпольскую нацыянальную і этнічную прыналежнасць з'яўляюцца групай налічваючай 554 тыс. (1,44 прац.) асоб, з чаго 38 тысяч гэта асобы, якія ідэнтыфікуюцца з двума няпольскімі нацыянальнасцямі. ГСУ адзначыла: „Даныя апошняга перапісу паказваюць на рост пачуцця этнічнай самабытнасці рэгіянальных грамадстваў у Польшчы, хоць у большасці выпадкаў лучыцца гэта з адначасовым адчуваннем польскай нацыянальнай тоеснасці". Калі гаворка пра адчуванне нацыянальнай прыналежнасці, найбольш асоб у Польшчы ідэнтыфікуецца з нямецкай нацыянальнасцю (109 тысяч; але яе як першую нацыянальнасць паказала іх 49 тысяч). Беларусамі адчувае сябе — згодна з данымі сабранымі ГСУ, а якія выклікалі шмат недаверу накот сумленнасці прыменанай метадалогіі, 47 тысяч грамадзян, з ліку якіх як першай беларускую нацыянальнасць паказала 37 тысяч. У параўнанні да папярэдняга перапісу — з 2002 года — стала нас менш на амаль дзве тысячы асоб, адчуваючых сябе беларусамі. На думку сацыёлага Мацея Тэфэльскага, упаўнаважанага падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, мае гэта сувязь перш за ўсё з працэсамі адміравання грамадства, асабліва на беларускіх вёсках ды міграцыі не толькі за мяжу, але і ў глыб краіны, што спрычыняецца да з'яў паланізацыі нацыянальнай тоеснасці.

У Семяноўцы дэпутаты сеймавай меншасной камісіі даведаліся ад нас аб уступных выніках перапісу адносна нацыянальнай і этнічнай прыналежнасці. Частка з іх не хавала таго, што нечаканасцю былі для іх вынікі дэкларацый наконт этнічных меншасцей — сілезскай і кашубскай. Сілезцамі адчувае сябе аж 809 тысяч, а кашубамі — 228 тысяч асоб. Прытым у адпаведнасці як першую прыналежнасць паказалі яны 418 тысяч і толькі 17 тысяч. Старшыня сеймавай камісіі Мірон Сыч (украінец па нацыянальнасці) пачаў семяноўскую сустрэчу з гарачага пасляспісавага каментарыя:

— Аказалася, што грамадства хоча гаварыць, кім яно з'яўляецца, што мы — грамадства, якое не баіцца жыць у РП і трактуе яе як сваю дзяржаву, з павагай да асобных ад польскай традыцый, культуры і мовы.

Каментарыі м.інш. падляшскіх самаўрадаўцаў наконт уступных вынікаў перапісу ў кантэксце названня беларускай прыналежнасці — у наступным нумары.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Асабліва пацярпелы павет

**Аб гаспадарчай сітуацыі Гайнаўскага павета, асабліва ў кантэксце планаў пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку ды аб праявах расізму і ксенафобіі на Падляшшы размаўлялі два дні ў Беластоку і Семяноўцы члены Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей з падляшскімі самаўрадаўцамі і прадстаўнікамі меншасных няўрадавых арганізацый. Пры нагодзе ўпаўнаважаная ўрада па справах роўнай трактоўкі Агнешка Казлоўская-Раевіч, якая ўдзельнічала ў першым, беластоцкім дні візіту камісіі на Падляшша, абяцала звярнуцца ў пракуратуру з просьбай высветліць, чаму паліцыя хутка спыніла справу знішчэнняў на тэрыторыі скіта а. Гаўрыіла ў Адрынках.**



Сустрэча камісіі ў Семяноўцы

У гэтым двухдзённым (значна спозненым па віне членаў камісіі) пасяджэнні ўдзельнічала ледзь дзевяцёх дэпутатаў у першы дзень, а сямёра ў другі дзень з ліку семнаццаці асоб, якія засядаюць у сеймавай камісіі. Што цікавае, найбольш прысутных было ад Права і справядлівасці, хаця агулам перавагу ў ёй складаюць парламентары ад Грамадзянскай платформы. Не было ні аднаго дэпутата ад ПСЛ, бо ніхто з гэтай групоўкі не запісаўся ў гэтую камісію. 21 сакавіка (першы дзень пасяджэння), у Міжнародны дзень змагання з расізмам і два дні пасля намалявання невядомымі злачынцамі фашысцкіх знакаў на былым яўрэйскім могільніку ў Высокім-Мазавецкім, у Падляшскай ваяводскай управе вяліся размовы з прадстаўнікамі падляшскіх меншасных арганізацый аб праявах ксенафобіі і расізму. Дыскусія моцна нагадвала такую самую, што адбылася месяц раней у гэтым самым месцы, толькі што пры ўдзеле Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей (пісалі мы пра гэта ў апошніх выпусках „Нівы"). Данута Главацкая-Мазур, дырэктар дэпартамента кантролю, скаргаў і заяў Міністэрства ўнутраных спраў паінфармавала, што ў 2010 годзе ў Польшчы здарылася 78 выпадкаў выяўляючых нянавісць да ўсялякага роду меншасцей, у тым ліку 45 датычыла канкрэтных нацыянальных меншасцей, асабліва яўрэйскай і ромскай. Адпаведна ў наступным годзе такіх здарэнняў было 90 і 51. Ні адно з іх у той час не было звязана, прынамсі непасрэдна, з беларускай меншасцю. Летась дзесяць спраў расісцкага і ксенафобнага характару зафіксавала МУС у Падляшскім ваяводстве. Данута Главацкая-Мазур успомніла таксама аб абучэннях датычных умеласці выяўляння праблем звязаных з нянавісцю ў адносінах да меншасцей, арганізаваных для функцыянераў публічнага парадку ва ўсёй Польшчы. Дасюль ахапілі яны адну трэць з іх.

У сваю чаргу Агнешка Казлоўская-Раевіч адзначала:

— Не пазбегнем непажаданых падзей (гаворка пра праявы нянавісці ў адносінах да меншасцей — М. Х.). Ніколі гэта не кончыцца, ды мусім умець рэагаваць. Злачынствы расісцкага і ксенафобнага характару мусяць паспяхова перaследавацца. Неабходным з'яўляецца будаванне культуры талерантнасці.

Якраз фармаванню талерантных адносін мае служыць урадавы праект „будавання стаўленняў палякаў". Міністр Казлоўска-Раевіч прадбачыла, што неўзабаве сустрэнецца з віцэ-міністрам юстыцыі ды экспертамі на тэму ўнясення магчымых папраўак у Крымінальны кодэкс, каб справы расісцкага і ксенафобнага характару не спыняліся лёгка і суды не вырашалі амаль стандартна аб малой грамадскай шкоднасці ўчынку.

— Гэта не ёсць учынкі з малой грамадскай шкоднасцю.

Дадала таксама, што патрэбнай з'яўляецца ратыфікацыя Польшчай міжнароднай канвенцыі аб праявах ксенафобіі і расізму ў кіберпрасторы.

Дарадчык сеймавай камісіі меншасцей, сацыёлаг Лех Ніякоўскі, расказваў аб схемах кіруючых групамі і сейбітамі нянавісці ў адносінах да меншасцей:

— У такія арганізацыі ўключаюцца асобы, якія, калі нават вельмі прадузятыя, самі не ўчынілі б актаў агрэсіі. (...) Нават нешматлікая група асоб, сарганізаваных у крайняй групоўцы, можа дапусціцца сур'ёзных злачынстваў на вялікім абшары (...). Немагчыма выцесніць акты нянавісці ў адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей (...). Руйнаванне гэта часта ініцыяцыйны моладзевы рытуал. Часта таксама становішча публічнай дэбаты намячае ім мэту.

У час дыскусіі Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства заўважыў:

— Мне здаецца, што чым часцей займаемся гэтай праблематыкай, тым часцей даходзіць да такіх здарэнняў. Вельмі часта нашы дзеянні засяроджваюцца на выяўленні і крымінальным пераследзе злачынцаў. Прыгадвае гэта перамаганне вынікаў, а не ліквідаванне прычын. Гэтыя акты маюць глыбейшыя грамадскія і палітычныя абумоўленні.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП, крануў справу спынення справы аб зруйнаванні скіта ў Адрынках, да якой дайшло на пачатку снежня мінулага года, а ўжо на пачатку сакавіка бягучага года, пры невыяўленні віноўнікаў, яе спынілі:

— Гэта занадта паспешнае дзеянне. Гэта чарговая справа, якая выклікае сумнеў, пакуль маўклівы.

Упаўнаважаная па справах роўнай трактоўкі пасля ў размове з „Нівай" сказала:

— Прымаем усе афіцыйныя заявы. Таму чакаем нейкай фармальнай заявы ў гэтай справе.

Але ж былі прэсавыя інфармацыі, якія ўстанова ўпаўнаважанай па справах роўнай трактоўкі прымае пад увагу, хаця б на тым пасяджэнні камісіі заклік старшыні БС у РП, — дапытваліся мы.

— Я магу звяртацца да пракурора, ці гэтую справу ахапілі асаблівай стараннасцю.

А будзеце?

— Напэўна.

На другі дзень, у час пасяджэння ў былой школе ў Семяноўцы, здавалася, што члены камісіі згодны з выказваннямі самаўрадаўцаў Гайнаўскага павета, якія супрацьўляюцца грамадскаму законапраекту датычнаму м.інш. пазбаўлення іх права ўплываць на рашэнне аб пашырэнні Белавежскага нацыянальнага парку. У гэтай сустрэчы прынялі ўдзел войты Дубіч-Царкоўных, Чыжоў, Нараўкі і ўлады Гайнаўкі ды Гайнаўскага павета. Ян Сычэўскі, яшчэ дзень раней (не мог быць у Семяноўцы) звярнуўся да дэпутатаў, спасылаючыся на гэтую праблему:

— Будзе гэта ўдар па беларускай меншасці, таму што гэтае насельніцтва будзе прымушана да міграцыі, а затым да пазбаўлення сябе тоеснасці, мовы, культуры. У Гайнаўскім павеце, па прычыне недахопу сродкаў для жыцця, беларуская меншасць можа перастаць існаваць.

Старшыня сеймавай камісіі Мірон Сыч (ГП; украінская меншасць; падобна як віцэ-старшыня меншаснай камісіі Яўген Чыквін, таксама сябра сеймавай камісіі аховы асяроддзя) пачаў семяноўскую сустрэчу:

— Само грамадства павінна ўмець дбаць аб ахову асяроддзя, без спецыяльных рэгуляцый зверху.

Яўген Чыквін (СЛД):

— Мы разумеем, што гэтыя праблемы датычаць не толькі меншасцей, але і ўсіх грамадзян. Гэты павет асабліва пацярпеў ад міграцыйных праблем. На працягу 20 гадоў паменшаў на каля 30 адсоткаў.

Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч:

— Інвестары абмінаюць нас шырокай дугой пад уплывам ударнай сілы эколагаў і СМІ.

Нараўчанскі войт спаслаўся тут на прыклад фірмы, якая хацела ў гэтай гміне заінвеставаць 100 мільёнаў злотых і стварыць месцы працы, ды эколагі яе напалохалі, заяўляючы, што гэта цэнтр Белавежскай пушчы, хоць месца размяшчэння інвестыцыі было фактычна аддаленае ад пушчы на сем кіламетраў. Падобна як іншыя самаўрадаўцы, войт Павільч успомніў аб бесталковасці забароны збіраць драўніну на апал з тэрыторыі пушчы, якая ляжыць (таксама пры дарогах ) і гніе. Падтакваў яму гайнаўскі віцэ-староста Андрэй Скепка:

— Не можа быць так, што мы нашы дамы абаграваем вугалем, нават леснічоўкі, а драўніна марнуецца. Хочам таксама, каб тою драўнінай карысталіся нашы прадпрымальнікі, а не так, як у тартаку ў Семяноўцы, звозілі яе, напрыклад, з Беларусі.

Наконт грамадскага законапраекта аб ахове прыроды (кранаючага якраз м.інш. пашырэнне Белавежскага нацынальнага парку) віцэ-староста меркаваў:

— Толькі кампраміс і дыялог могуць давесці да ўзгаднення інтарэсаў.

У нейкі момант старшыня Сыч спрабаваў пажартаваць:

— Кажаце: хочаце таго і таго, а мы і так скажам, што і так нічога не можам.

Яўген Вапа:

— Мы знаходзімся ў месцы, у якім сарвалася працягласць беларускага жыцця ў выніку пабудовы вадасховішча ў Семяноўцы. Мясцовае насельніцтва не ў змозе справіцца з інвестыцыйнымі выклікамі, а людзі звонку скупляюць гэтую тэрыторыю. У найбліжэйшай будучыні наступіць інвертацыя тутэйшай дэмаграфічнай структуры. Хто мае тут развіваць беларускую культуру, як не самаўрады. А важным элементам абароны і прамоцыі жыхароў Гайнаўскага павета было б увядзенне самаўрадамі двухмоўных польска-беларускіх надпісаў ва ўсіх гмінах пушчанскага павета.

Старшыня БС у РП шкадаваў, што няма супольных дзеянняў эколагаў і самаўрадаўцаў датычных тэрыторый, дзе кампактна пражывае беларускае насельніцтва. Пералічыў тут м.інш. ліквідацыю сістэмы чыгуначных маршрутаў. Дэпутатка Дарота Арцішэўская-Мельчык у благой гаспадарчай сітуацыі Гайнаўскага павета і ў тым, што адбываецца вакол пушчы, аднаэначна вінавацць эколагаў:

— З-за дзеянняў эколагаў, моцна падтрымліваных замежжам, знішчаюцца некаторыя гаспадарчыя зоны. Ёсць нейкае правіла: іхнія дзеянні пераносяцца на ўрадавыя рашэнні.

Спадарыня дэпутат пасля ў размове з намі дадала:

— Таксама і сёння аказалася, які ўплыў эколагаў, асабліва „Грынпіс", які добра абсталяваны, добра фінансаваны з крыніц не ў Польшчы, не меўшы нічога супольнага з аховай гэтай пушчы; гэта павінна навесці на думку міністраў і іншых чыноўнікаў, якія вырашаюць. І не гаворым пра тое, хто з якой палітычнай групоўкі.

У размове з журналістамі старшыня Сыч пасля завяршэння другога дня пасяджэння камісіі падвёў:

— Здарылася нам першы раз мець дачыненне з такімі праблемамі. Гэтая грамадска-эканамічная праблема ў адносінах да беларусаў з'яўляецца для нас чымсьці новым. Мы пачулі, што пашырэнне Белавежскай пушчы спрычыніцца да таго, што гэтыя тэрыторыі не будуць развівацца, а нават наадварот, а самаўрады не маюць ніякіх кампенсацый на развіццё, звязаных з іх пушчанскім распалажэннем. На захадзе нацыянальныя паркі ствараліся для людзей. А тут аказваецца, што ў Польшчы ствараюцца яны супраць людзей. Гэта, прынамсі для мяне, непрымальнае.

Як прадбачыў старшыня Мірон Сыч пасля сустрэчы ў Семяноўцы, сябры камісіі маюць падрыхтаваць — як гэта назваў — адпаведны дэзідэрат. Як можна меркаваць, падобна як было гэта ў выпадку дэзідэратаў камісіі ў шмат якіх іншых справах, не мусіць мець ён ніякага ўплыву на рашэнні наконт пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку.

## Не выкарыстоўвайце „навамоўя”

У „Ніве” № 12 ад 18.03.2012 г. быў надрукаваны рэпартаж Міры Лукшы „З Руднянскага грудка”. Рэпартаж вельмі добры і рэальны — як усе яе артыкулы. Я сам родам з Рудні, што ў Міхалоўскай гміне. Мне пашчасціла ведаць Кацю Янушкову (як у нас яе называлі). Я таксама ведаю Верку Канцавую, Марысю Хлябіч — яе дачку (гэта мая сяброўка з вёскі), Клаўдзіка Казберука (мой сябра з пачатковай школы ў Рыбаках). Я таксама маю гонар ведаць аўтарку рэпартажу Міру Лукшу.

Мне не падабаецца загаловак рэпартажу „З Руднянскага грудка”. Асабліва слова „Руднянскага”. Тут, у Рудні і ў навакольных вёсках не казалі (і не кажуць) „Руднянскага”, але „Рудніцкога”. Гаворыцца: Рудніцкога Грудка (Грудок з вялікае літары, бо гэта назва часткі вёскі), Рудніцкога озера (было такое), рудніцкога мліна (быў такі), рудніцкога балота (у сэнсе сенажаці) і г.д.

Тое ж самае адносіцца да назвы беларускага фэсту ў Бандарах: „Бандароўская гасцёўня”. Такі менавіта надпіс красуецца на банеры, які вісіць на сцэне падчас мерапрыемства. Ні ў Бандарах, ні ў суседніх вёсках не выкарыстоўвалася і не выкарыстоўваецца гэтая форма. Гаворыцца: „Бандарская”: „Бандарская дарога”, „бандарскі млін” і інш.

Тое ж самае адносіцца і да слова „гасцёўня”, якое абазначае „гасцінны пакой”. Пры чым „пакой” да фэсту? Павінна выкарыстоўвацца слова „гасціна”. Адным словам, павінна быць: „Бандарская гасціна”.

Трэба прымяняць формы назваў, якімі карыстаецца мясцовае беларускае насельніцтва, пражываючае ў гэтым рэгіёне на працягу многіх стагоддзяў. Гэтыя назвы перадаюцца з пакалення ў пакаленне, і яны ёсць найлепшымі. Не выкарыстоўвайце „навамоўя”, таму што гэта гучыць дзіўна і з’яўляецца вынікам бальшавіцкіх змяненняў у беларускай граматыцы. Што на гэта, што я напісаў, скажуць лінгвісты?

**Георгі ЗЮЗЯ, Варшава**

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Кароткі ўрок пашаны да спадчыны



Калі ў лютым гэтага года Пачатковай школе ў Чырвонцы пагражала закрыццё, з гэтай прапановай, акрамя бацькоў, не пагаджалася Тэрэса Выганоўская. Ужо амаль васьмідзесяцігадовай жанчыне не было абыякавым ці школа далей будзе існаваць.

— На жаль, я не магла паехаць на пасяджэнне ўправы гміны, таму што захварэла. Але я вельмі хацела сказаць бурмістру Сухаволі, што нельга забываць свае карані. А ён забыўся.

Сям’я Выганоўскіх амаль цэлае сваё жыццё прысвяціла аднавяскоўцам, а канкрэтна — іх адукацыі. Сам бурмістр Сухаволі, таксама настаўнік, гэта нашчадак дзядзькі самога Адольфа Выганоўскага — заснавальніка школы.

### 1. Адольф

Выганоўскі Адольф заснаваў школу ў Чырвонцы яшчэ перад вайною. Калі завяршыў вучобу ў Вільні, вырашыў вярнуцца на бацькаўшчыну.

— Я не хацела аб гэтым гаварыць, але Адольф вучыўся ў семінарыі. Меў стаць ксяндзом. Проста пашкадаваў гэтых людзей, таму што яны нічога не ўмелі — ні чытаць, ні пісаць! Таму ён вярнуўся ў Чырвонку.

Сам бацка Адольфа — Іосіф — быў родам з Варшавы. Служыў у арміі ў Вільні разам з хлопцам з Чырвонкі. Калі былі ў звальненні Іосіф вельмі захацеў убачыць родны куточак свайго сябра, галоўным чынам таму, што ніколі раней не бачыў вёскі. У Чырвонцы спадабалася яму настолькі, што вырашыў ажаніцца і тут асесці.

Выганоўскі Адольф вярнуўся да Чырвонкі перад вайною. Тут у хаце сваіх бацькоў пачаў навучаць чырванчанскіх дзяцей. Па яго запрашэнні да вёскі прыехала настаўніца Алена з-пад Вільні.

— Ён хацеў, каб яна прыехала ў Чырвонку толькі таму, што цяжка было тут у той час знайсці настаўніцу. Быў каталіком, таму мусіў з ёй ажаніцца. Як бы гэта выглядала перад людзьмі?

Адольф ажаніўся з Аленай, аднак не мелі дзяцей. На пачатку Другой сусветнай вайны Выганоўскі са сваёй старэнькай у той час маці былі адпраўлены ў Казахстан. Аб смерці маці Адольф паведаміў у адным і апошнім лісце да брата Янкі. Што здарылася з самым Адольфам — не вядома.

### 2. Тэрэса

— Гэтыя ўсе пашпарты, пісьмы, лісты... ну гэтыя ўсе паперкі мы хавалі на гары ў кастрыцы! Ніхто іх там не знайшоў.

У чыстым пакоі, дзе раней быў клас, Тэрэса трымае ўсе памяткі. Здаецца, што амаль ніхто сюды не ўваходзіць. На паліцы стаяць старыя кніжачкі, малітоўнікі прывезеныя з Вільні. Стол засланы белым абрусом з вышытымі кветкамі. Тэрэса зручна адсунула некалькі кубкаў, якія стаялі на паліцы і дасягнула ключык ад шафы, у якой трымае ўсе важныя дакументы.

У час вайны школа была зачынена. Але потым муж Тэрэсы — Антон Выганоўскі і настаўнік Касановіч зноў жа стараліся, каб можна было вучыць у Чырвонцы.

— Як прыйшла я сюды, а я самая з Пакосьна, то яшчэ некалькі гадоў вялі занятки ў гэтым пакоі. Тут дошка вісела, на гэтай сцяне, там была ўжо канцылярыя. А мы сядзелі ў адным пакоі! Мне трэба было ўставаць, прыбіраць штодзень. Муж смяяўся, што іншая жонка не перанясла б гэтага, што я.

### 3. Мова

— Мяне ў Пакосьным не вучылі пабеларуску, а ці Адольф навучаў на гэтай мове — цяжка сказаць. Былі яшчэ падручнікі на гары. Мне здавалася, што там напісанае было па-беларуску. Пашукаю іх.

Бацька Тэрэсы паходзіў з Таенка. Гэта мясцовасць, якая знаходзіцца ўжо за Бобрай. Людзей з тых старонак называлі мазурамі. Ад дзяцінства Тэрэса ад бацькі вучылася польскай мове.

— Памятаю як з сястрой зайшла ў школу і пачала размаўляць па-польску, тады ўсе з нас смяяліся, што мы так гаворым. Як мы тады прыйшлі дахаты, як пачалі плакаць... па сённяшні дзень гавару па-свойму!

### 4. Навука

Новая школа, якая стаіць па сённяшні дзень у Чырвонцы, пабудавана на зямлі, якую пакінуў Адольф Выганоўскі. Яшчэ калі вучыў у Чырвонцы перад вайною, збіраўся паставіць школу. Для гэтай мэты пакінуў некалькі палосак сваёй зямлі.

— Я ведаю толькі гэта, што ў нас засталася беларуская мова. Не кожнаму гэта падабаецца. Не можна забыць сваіх каранёў. Мой бацька быў мазурам, але заўсёды нам напамінаў, што сваіх каранёў ніхто не можа саромецца.

# Слоўнік назваў населеных пунктаў Беласточчыны

*У назвах населеных пунктаў увасоблены геаграфічныя і прыродна-кліматычныя своесасаблівасці мясцовасці, характар вытворча-прафесійнай дзейнасці насельніцтва, спосабы і формы рэалізацыі імі матэрыяльных і духоўных патрэб. Пад уплывам часу і пад уздзеяннем вытворча-гаспадарчай дзейнасці чалавека акаляючае яго асяроддзе змяняецца, але тапанімічныя назвы, у якіх адлюстраваны тыя ці іншыя асаблівасці, застаюцца.*

*Тапонімы сведчаць аб мове карэннага насельніцтва, якое прысвоіла іх населеным пунктам, змяшчаюць у сабе рысы дыялектаў дадзенай ваколіцы. Іх разуменне вельмі важнае для захавання нацыянальнай тоеснасці мясцовага насельніцтва. Так справа маецца і ў выпадку беларусаў на польска-беларускім памежжы. Гэта важнае асабліва цяпер, калі закон ад 6 студзеня 2005 г. аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове дазваляе побач дзяржаўнай мовы карыстацца мовамі нацыянальных меншасцей у якасці дапаможнай, а таксама вяртаць традыцыйныя назвы населеным пунктам. На жаль, да гэтай пары законнымі магчымасцямі пакарысталіся не ўсе дванаццаць самаўрадаў, на тэрыторыі якіх пражывае больш чым 20% беларусаў. Беларускай мовай у якасці дапаможнай можна карыстацца ў горадзе Гайнаўцы ды ў Арлянскай, Нараўчанскай і Чыжоўскай гмінах. Арлянскія радныя пайшлі далей і прынялі рашэнне аб устанаўленні двухмоўных дарожных указальнікаў з назвамі мясцовасцей.*




*Пакуль прыняць рашэнне аб падвойных назвах неабходна правесці кансультацыі з грамадствам, у час якіх, як паказала практыка, выяўляецца рознагалоссе на тэму формы назваў. Пазней прапанаваныя назвы патрабуюць адабрэння Камісіі назваў неселеных пунктаў і фізіяграфічных аб’ектаў пры Міністэрстве адміністрацыі і лічбавізацыі. Менавіта гэта падштурхнула праф. Міхала Кандрацюка выдаць слоўнік „Афіцыйныя і дыялектныя назвы населеных пунктаў Беласточчыны”*. Мэта публікацыі — чытаем ва ўступе — „шырокая папулярызацыя і адукацыя грамадства, асабліва дзяцей і моладзі ў сферы ведання гісторыі свайго рэгіёна, месца пражывання і наваколля, ведання мовы і дыялектаў бацькоў і дзядоў, фармавання пачуцця пашаны для сваіх каранёў, дбайнасці пра захаванне і ўмацоўванне усёй культурнай спадчыны, яе разуменне, засваенне і культываванне”.*

*Дыялектны матэрыял, выкарыстаны ў слоўніку, гэта плён працы калектыву філолагаў — Міхала Кандрацюка, Мікалая Врублеўскага, Тадэвуша Здацэвіча і Яна Галубоўскага — якія пад кіраўніцтвам праф. Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай у 1961-1969 гадах запісалі назвы населеных пунктаў для ўрадавай Камісіі па ўстанаўліванні назваў населеных пунктаў і фізіяграфічных аб’ектаў.*

*Слоўнік мае форму табліцы з трох калонак. У першай падададзены афіцыйныя назвы, у другой — дыялектныя (у назоўным і родным склонах, часам у месным і форма прыметніка), а ў трэцяй — пры некаторых назвах дадатковыя інфармацыі. Слоўнікавую частку выдання папярэджвае абшырны ўступ, у якім апрача інфармацыі аб прадмеце і тэрытарыяльным абсягу працы даецца пасялянчая і моўная характарыстыка даследаванай тэрыторыі. У выданні змешчаны сем карт, якія ілюструюць адміністрацыйную прыналежнасць даследаванай тэрыторыі ў розныя перыяды, напрамкі і межы каланізацыі ў XIV-XVIII стст. і галоўныя лініі фанетычнага дзялення ўсходнеславянскіх дыялектаў Беласточчыны. Прадбачваецца яшчэ выданне анекса да слоўніка ў выглядзе алфавітнага паказальніка дыялектных назваў, запісаных спрошчанай фанетычнай транскрыпцыяй у супастаўленні з афіцыйнымі назвамі і іх лакалізацыяй.*

*Паколькі ў слоўніку ахоплены ўвесь арэал, які насяляюць беларусы, можа ён быць прыдатны ў кадыфікацыі генетычна беларускіх назваў на Беласточчыне і пры ўводжанні двухмоўных, польскіх і беларускіх назваў мясцовасцей у адпаведнасці з законам аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Слоўнік можа быць прыдатны і ў працы Камісіі назваў неселеных пунктаў і фізіяграфічных аб’ектаў, якая рыхтуе новы афіцыйны спіс населеных пунктаў Польшчы. Слоўнік будзе карысны для моваазнаўцаў, гісторыкаў, археолагаў, географаў, этнографаў, а таксама для краязнаўцаў, якія цікавяцца мінулым сваёй малой Айчыны.*

*Слоўнік „Афіцыйныя і дыялектныя назвы населеных пунктаў Беласточчыны” выдала і распаўсюджвае Беларускае гістарычнае таварыства.*

**Віталь ЛУБА**

* *Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny, opracował Michał Kondratiuk, wyd. Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 2011, ss. 372.*



*Выступленне ў час святкавання Дня Волі ў Беластоку 25.03.2012 г.*

# Вытрываць і перамагчы

*Шаноўнае Спадарства! Вітаю сардэчна ўсіх тых, хто ў нялёгкі і неспрыяльны для беларускай дзяржаўнасці і нацыі час прысутнічае тут разам з намі на святкаванні 94-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская нацыя і яе дзяржаўнасць знаходзяцца зараз на мяжы выжывання. Трывожна і балюча ўсім беларусам за іх далейшы лёс. На нашых вачах здзек і пераслед над беларушчынай стаўся адным з галоўных вызначальнікаў унутранай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі, а паўсюдная русіфікацыя абазначае нацыянальны генацыд. Кіраўнік дзяржавы ў сваёй нянавісці да беларускіх гістарычных сімвалаў, пад якімі была абвешчана беларуская незалежнасць у 1918 годзе, перайшоў да фізічнай расправы над тымі беларусамі, якім незалежная Беларусь гэта не пустыя словы, не толькі прадмет гандлю з Усходам ці Захадам. Палітычныя вязні ў нашай духоўнай Бацькаўшчыне — гэта ганьба ўладам і ўдар па годнасці нацыі. Годнасці, якую абараняюць дзесяткі тысяч беларусаў, а адзін з іх, Сяргей Каваленка, гатовы нават зараз ахвяраваць сваім жыццём за сімвалы незалежнасці. Няхай геразім гэтага маладога чалавека, мужа і бацькі двух дзяцей, для тут прысутных стане паглыбленай рэфлексіяй над нашым стаўленнем да нацыянальных каштоўнасцей. Памятайма, што ў турмах са снежня 2010 года надалей знаходзяцца канкурэнты Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах Андрэй Саннікаў і Мікола Статкевіч, а таксама звыш дзесятка палітычных вязняў, якіх віна зводзіцца да аднаго: яны хочуць толькі, і аж толькі, незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Стан здароўя некаторых з іх пагражае трывалымі пашкоджаннямі арганізма і інваліднасцю. Большасць з іх бывала і на Беласточчыне і нашыя справы, як меншасці, ім не чужыя. Адзін з іх гэта праваабаронца, літаратуразнаўца, намінант на Нобелеўскую прэмію міру Алесь Бяляцкі. Ён некалькі гадоў таму назад, калі адбываўся заказны працэс над «Нівай», арганізаваў міжнародную, праваабарончую падтрымку ў нашай справе. Тады за нас, беларусаў у Польшчы, заступіліся сотні беларусаў з усяго свету і дзесяткі соцень з самой Беларусі. Гэта таксама і дзякуючы ўсім ім апраўдаў нас тады суд. Зараз як ніколі тыя ж самыя людзі ў Беларусі патрабуюць ад нас саміх нашай беларускай чалавечай салідарнасці, узаемадапамогі і заступніцтва. Не можам хаваць галавы ў пясок і прыкідвацца, што нічога не бачым і тлумачыць, што гэта не нашая справа. На такое стаўленне разлічваюць усе варожыя сілы, для якіх найлепш было б, каб разам з тым адышла і нашая памяць пра акт 25 Сакавіка. А праявіць беларускую салідарнасць са зняволенымі можам у самы просты спосаб — давайце зараз на пярэдадні велікодных святаў дашлем ім у турмы ці карныя калоніі нашыя пажаданні і словы падтрымкі. Турэмныя адрасы палітзняволеных даступныя ў інтэрнэце.*

*Маральная і матэрыяльная беларуская ўзаемадапамога — гэта адзін з праяваў нацыянальнай спеласці і выкананне запавету айцоў-стваральнікаў беларускай незалежнасці цягам ужо амаль стагоддзя.*

*У выпадку беларусаў у Польшчы сённяшняя сітуацыя ў Беларусі для нас вельмі некарысная. Адмоўныя палітычныя ці культурна-нацыянальныя працэсы не ствараюць надзеі атрымаць апірышча ў духоўнай Бацькаўшчыне. Яшчэ тым больш крыўдна, што зараз па прычыне кіраўніка беларускай дзяржавы магчымасць уступлення ў сілу дамовы аб малым памежным руху, які хаця б крыху зняў папяровы візавы заслон, адкладваецца ў нявызначаную будучыню. Для тысяч беларусаў па абодвух баках мяжы паменшваецца шанц на ўзаемасупрацоўніцтва і ўзаемапазнанне.*

*Таму вельмі важным для нас з'яўляецца далейшая беларуская самаарганізаванасць і пазітывісцкая праца тут, на Беласточчыне. Аб'яўленыя на мінулым тыдні вынікі перапісу насельніцтва 2011 г., у якім беларусамі запісалася 47 тысяч жыхароў Польшчы (нягледзячы, што метадалогія і спосабы апытання ставяць пад сумненне праўдзівасць атрыманых вынікаў наконт нацыянальных меншасцей) паказалі як вялікую працу правялі гадамі і штодзённа праводзяць надалей сотні беларусаў, каб асіміляцыя не паглынула нас вельмі хутка. Дзякую ўсім тут прысутным за Вашу адданасць роднай справе. Дзіцячыя садкі, школы і настаўнікі, масмедыі і журналісты, няўрадавыя арганізацыі, самаўрадаўцы і святары, пісьменнікі і мастакі, навукоўцы і выдавецтвы, музеі і выставы, вялікія фестывалі і малыя фэсты з народнымі калектывамі — усё разам спрацоўвае на нашую трывалую прысутнасць у малой Айчыне — Беласточчыне. І хаця дэмаграфічныя працэсы для нас некарысныя, то беларускасць нашая застаецца невымушанай і праўдзівай. А з праўдзівасці бярэцца вера і сіла.*

*І калі 94 гады таму назад нашыя продкі мелі сілу і веру абвясціць Беларускую Народную Рэспубліку, так нам, нашчадкам, нельга сумнявацца ў правільнасці абранага тады шляху. А свядомыя іхніх перамог і паразаў патрапім нашую сённяшнюю энергію і ўмеласці скарыстаць для нас, беларусаў у Польшчы, а тым самым унясем свой уклад з карысцю для нашай духоўнай бацькаўшчыны — Беларусі.*

*Жыве Беларусь!*

***Яўген ВАПА***

## На гэтыя адрасы можна даслаць словы падтрымкі, паштоўкі і лісты, каб павіншаваць палітвязняў са святамі:



**Алесь БЯЛЯЦКІ**
213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, Папраўчая калонія № 2 (карантын)

**Сяргей КАВАЛЕНКА**
210026, г. Віцебск, вул. Гагарына 2, СІЗА-2 Крымінальная справа аб масавых беспарадках

**АСУДЖАНЫЯ ЗА ПАДЗЕІ 19 СНЕЖНЯ**
Адбываюць пакаранне:

**Андрэй САННІКАЎ**
211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п. Віцьба, папраўчая калонія № 3

**Зміцер БАНДАРЭНКА**
213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183, папраўчая калонія № 15

**Эдуард ЛОБАЎ**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, „Воўчыя норы", а/с 20, папраўчая калонія № 22

**Мікола СТАТКЕВІЧ**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4

**Зміцер ДАШКЕВІЧ**
211791, Віцебская вобл., г. Глыбокае, вул. Савецкая, 205 папраўчая калонія № 13

**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

**АСУДЖАНЫЯ ПА „СПРАВЕ АНАРХІСТАЎ"**

**Мікалай ДЗЯДОК**
212013, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183, папраўчая калонія № 15, атрад 4

**Аляксандр ФРАНЦКЕВІЧ**
225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, „Воўчыя норы", а/я 20, папраўчая калонія № 22

**Ігар АЛІНЕВІЧ**
211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10

**АСУДЖАНЫЯ ЗА НАПАД НА БАБРУЙСКАЕ КДБ:**

**Яўген ВАСЬКОВІЧ**
212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4

**Арцём ПРАКАПЕНКА**
213004, Магілёўская вобл., г. Шклоў, ПК-17, атрад № 15

**Павал СЫРАМОЛАТАЎ**
213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК № 19

**ТАКСАМА**

**Мікалай АЎТУХОВІЧ**
230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма № 1

## Наваляўкоўцам вернуць чырвоную скрынку

У кастрычніку мінулага года ў Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) забралі чырвоную паштовую скрынку на пасыльныя пісьмы. Яна была на сцяне солтысавага дома, які знаходзіцца пасярэдзіне вёскі. Забралі, бо такое выйшла распараджэнне старшыні Праўлення Польскай пошты. У адпаведнасці з ім, у вёсцы, у якой пражывае менш чым 300 чалавек, не павінна быць паштовай скрынкі. Новае Ляўкова налічвае 222 жыхары.

Чаму забралі паштовую скрынку? — адказу на гэтае пытанне пачаў дабівацца солтыс Новага Ляўкова. Найперш падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы ў канцы 2011 года. Адказ на інтэрпеляцыю прыслаў 13 студзеня 2012 года намеснік дырэктара Раёна сеткі Польскай пошты ў Беластоку Францішак Гэруд. Ён спасылаўся на інструкцыю выдадзеную старшынёй Праўлення Польскай пошты і што пісьмо можна перадаць лістаношы. Адным словам, няма ніякіх праблемаў. Але ці так яно ўсё проста? Пісьманосец ездзіць на аўтамашыне і ніколі невядома, дзе затрымаецца і каму мае даручыць ён пасылку.

Раней паштовая скрынка была. Хто хацеў, той прыносіў і ўкідаў у яе пісьмо. Але вось кіраўнікі Польскай пошты пачалі шукаць ашчаднасцей. Найперш ліквідавалі і скарачалі лік паштовых аддзяленняў (у Нараўчанскай гміне пакінулі адно, у Нараўцы), а затым узяліся за ліквідацыю паштовых скрынак у вёсках. Хто там думаў пра тое, што кліентам будзе больш складана карыстацца паштовымі паслугамі.

Солтыс Новага Ляўкова апісаў справу ў „Ніве" і два разы наведаў намесніка дырэктара Раёна сеткі Польскай пошты ў Беластоку. За другім разам атрымаў задавальняючы адказ. У красавіку г.г. у Новым Ляўкове зноў будзе даступнай паштовая скрынка!

## Супрасльская дэмаграфія

Зараз у Супрасльскай гміне пражывае 13 308 жыхароў у 31 мясцовасці. Горад Супрасль налічвае 4 534 жыхары і гэта амаль адна трэцяя частка ўсяго насельніцтва гміны.

Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца Грабаўка — 2 979 жыхароў, Засцянкі — 2 221, Сабалева — 1 133, Агароднічкі — 659, Каракулі — 531, Саўляны — 320, Генрыкова — 283 і Цяснэ — 259 асоб. У горадзе і васьмі найбольшых вёсках пражывае 12 919 асоб. У меншых і малых 22 мясцовасцях ёсць усяго 389 жыхароў. У Пячонцы і Пад'ялоўцы — па адным жыхары, трое ў Здроях, чатыры ў Зялёнай, сем у Садовым Стоку, дзевяць у Дубоўніку, адзінаццаць у Маёўцы, трынаццаць у Красным, чатырнаццаць у Зацішы, пятнаццаць у Суражкове ды па шаснаццаць у Ялоўцы, Копнай Гары і Красным Лесе, семнаццаць у Варонічах. Невядома, як доўга будуць яшчэ існаваць дзве вёсачкі, дзе па адным жыхары — Пячонка і Пад'ялоўка. Тут хопіць, што адзін жыхар памрэ і трэба будзе забіраць дошку з назвай паселішча! Зараз жыхар Пячонкі можа з гонарам заявіць, што „Вёска Пячонка — гэта я!" Ён, так мовіць, апошні з магікан.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# „Тройка" сярод першых у ваяводстве!

**Крыстафор Лушчынскі,** вучань шостага „б" класа бельскай „тройкі" — лаўрэат трох прадметных конкурсаў: па гісторыі, прыродзе і польскай мове ды фіналіст па матэматыцы і англійскай мове. Кшысь быў узнагароджаны спецыяльнай граматай і прызам падляшскага ваяводы. Навуковыя поспехі нашага сябры сугучныя поспехам яго школы. У 2011/2012 навучальным годзе Падставовая школа № 3 пры Комплексе школ з беларускай мовай навучаня імя Яраслава Кастыцэвіча займела ажно 22 лаўрэатаў і апынулася сярод найлепшых у ваяводстве. „Тройку" апярэдзіла беластоцкая „шасцёрка" з 23 лаўрэатамі. Поспех нашых сяброў быў агучаны напярэдадні Дня Волі, 22 сакавіка г.г., у час урачыстага падвядзення вынікаў прадметных конкурсаў у Падставовай школе імя кардынала Вышынскага (што на Зялёных Узгор'ях) у Беластоку. У сталіцу рэгіёна прыехала аж тры з паловай тысячы лаўрэатаў са 146 школ з усяго ваяводства. І гэта, — як адзначыў падляшскі куратар асветы Ежы Кішкель, — складае адно 30 адсоткаў усіх школ, якія ў большасці маглі паганарыцца адным або двума лаўрэатамі.



Куратар Ежы Кішкель віншуе лаўрэатаў па беларускай мове

Феномен „тройкі" заключаецца і ў тым, што апярэдзіла яна многія беластоцкія школы, большыя за сябе ў некалькі разоў! Калі гаварыць пра адукацыйныя поспехі іншых чым Беласток гарадоў, на пятым месцы апынулася ПШ № 5 у Ломжы з 15 лаўрэатамі.



Грышка Зіневіч (першы злева) і Куба Ваўрусевіч (першы справа) лаўрэаты па гісторыі



Кшыштаф Дзяжгоўскі віншуе віцэ-дырэктар Яўгенію Васілюк з поспехам школы

— Крыху шкада што не хапіла нам аднаго бала да поўнай перамогі, — кажа настаўніца Валянціна Бабулевіч, якая падрыхтавала аж шэсць лаўрэатаў! — Затое прыемна, што нашыя вучні займелі поспехі амаль ва ўсіх прадметах.

Навуковы ўзровень школы вызначаецца колькасцю лаўрэатаў прадметных конкурсаў. У наш час гэта асноўная катэгорыя, якой кіруюцца бацькі пры выбары школ для сваіх дзяцей. Цану першынства і адначасова добрай славы вядаюць гарадскія школы, якія змагаюцца за кожнага вучня. Таму з найбольшай радасцю і гонарам мы сустракалі школы з глыбінкі, якія прыехалі на свята са сваімі лаўрэатамі з Нарвы, Чыжоў, Дубін, Дубіч-Царкоўных, Гайнаўкі, Бабікаў, Шудзялава. Шанц на поспех у большасці прынесла ім беларуская мова. Гэты факт, калі ўлічыць, што ні ўкраінцы, ні літоўцы не маюць сваіх прадметных конкурсаў, паказвае нашую меншасць у пазітыўным святле. А сапраўдным амбасадарам нашай меншасці ў гэтым прэстыжным спаборніцтве з'яўляецца бельская „тройка". Я сама вельмі глыбока перажываю ўсе поспехі школы, якая ў сваёй назве адметна адзначае беларускасць і блізкага мне па духу патрона — настаўніка Яраслава Кастыцэвіча. Вялікае вам ДЗЯКУЙ!



Крыстафор Лушчынскі (трэці злева)

А вось прозвішчы тых, якія папрацавалі на поспех. Сярод лаўрэатаў па беларускай мове апынуліся: Ангеліка Сцепанюк з класа 6 „а", Юстына Якубюк з класа 6 „а", Максім Фіёнік з класа 4 „ц", Губерт Анішчук з класа 6 „а", Мартына Янкоўская з класа 6 „а", Ніка Юрчук з класа 6 „б" — усіх іх рыхтавала настаўніца Валянціна Бабулевіч; Мартына Швед з класа 6 „д", Магда Магрук з класа 6 „д" — рыхтавала настаўніца Міраслава Маркевіч; Марта Бручко з класа 5 „б", Кацярына Верамеюк з класа 5 „б" — рыхтаваў настаўнік Андрэй Мароз. У конкурсе па польскай мове перамаглі: Эва Аўярчук з класа 6 „д" (настаўніца Беата Фрэйман-Арнольд), Паўліна Казімірук з класа 5 „б" (настаўніца Аліна Банькоўская), Юстына Марчук з класа 6 „ц" (настаўніца Моніка Ляўчук), Крыстафор Лушчынскі з класа 6 „б" (настаўніца Софія Сачко-Каролька). Лаўрэатамі конкурсу па гісторыі сталі вучні шостага „б" класа: Крыстафор Лушчынскі, Грышка Зіневіч і Куба Ваўрусевіч (іх падрыхтавала настаўніца Яўгенія Якубюк).

Лаўрэатам па рускай мове стала Ніка Юрчук з 6 „б" класа (настаўніца Галена Мішчэрыякова), па англійскай: Адрыян Ігнацюк з 6 „б" класа (рыхтавала настаўніца Барбара Скрундзь), па матэматыцы: Эвеліна Самасюк з класа 6 „б" (рыхтавала віцэ-дырэктар Яўгенія Васілюк), па прыродзе: Кшысь Лушчынскі з класа 6 „б" (пад кірункам Валянціны Сцепанюк). Дадаткова, сярод фіналістаў апынуліся: Віялета Дработка, Юстына Якубюк (па рускай мове), Тамаш Грыгарук (па матэматыцы), Наталля Шаціловская (па беларускай мове) і Губерт Анішчук (па прыродзе). Усіх лаўрэатаў і фіналістаў, настаўнікаў і дырэктара **Васіля Ляшчынскага** віншуем з бліскучым і прэстыжным поспехам!!!

**Тэкст і фота**
**Ганны КАНДРАЦЮК**

(легенда сібірска-маньчжурскага народа эвенкаў)

# Адкуль у сабакі поўсць?

Калі пачынаўся свет, ніхто не ведаў ці на зямлі будзе месца чалавеку. Пра гэта спрачаліся багі-браты з горнага неба. Малодшы любіў людзей і хацеў, каб яны засялілі зямлю. Старэйшаму, наадварот, чалавек падаўся залішнім клопатам:

— Ён безупынна будзе сячы лясы, забіваць звяроў, — даказваў.

— Не, ён будзе рубіць добрую справу, — пераконваў малодшы, — хто яшчэ апрача разумнай істоты дарує віну, стане ў абарону слабейшых стварэнняў?!

Малодшы брат усё ж дабіўся ў горным небе, каб на зямлі пасяліліся людзі. Ён пільна сачыў за іх паводзінамі, дапамагаў у бядзе, навучаў добрых учынкаў. Аднойчы паклікалі яго ў горнае неба. Малодшы брат запрог белых аленяў і на канец загадаў сабаку: «Сцеражы іх, брат, як вока ў галаве. На кожным кроку тут небяспека...».

А трэба вам ведаць, што ў тыя часы ў сабак не было поўсці. Яны бегалі голымі, як людзі, і ў адрозненні ад апошніх мерзлі, бо ж не ўмелі звязаць шкарпэткі ці пашыць вопратку са шкуры аленя. Магчыма, з тых часоў у нас прыказка: змёрз як сабака!

Калі малодшы брат ад'ехаў у дарогу, адразу з'явіўся яго супернік: старэйшы брат. Ён паклікаў сабаку і пачаў яго спакушаць:

— Пусці мяне, брат, да людзей, добра табе заплачу...

— Мне не трэба тваёй заплаты, — буркнуў стораж на чатырох лапах. — Лепш ідзі адкуль прыйшоў...

— Дастаўлю табе тону мяса, — маніў старэйшы брат.

— А пайшоў ты са сваім мясам! — яшчэ больш зазлаваў сабака.

— Ну, не злуй даражэнькі. Я табе дам штосьць, чаго табе трэба.

— Няма такога на свеце, — агрызся сабака. — Усё ў мяне ёсць!

— Падумай толькі... — гаварыў няпрошаны госць. — На дварэ мароз, усім цёпла, а ты адзін скулены, да касцей прамерзлы...

— Дык што? Такая мая сабачая доля!

— А я табе дам такую вопратку, якая летам усцяражэ ад спёкі, зімой — ад марозу, а восенню — ад дажджоў...

— Цікава? — сабака навострыў вушы.

— Паглядзі сам!

Тут старэйшы брат нешта пашаптаў і на хрыбце голага сабакі вырасла буйная поўсць. Жывёла павіляла ад радасці хвастом і пабегла ў лес. Старэйшы брат толькі таго чакаў. Ён праціснуўся да людзей, дзьмухнў на іх пошасным паветрам і адляцеў...

Калі малодшы брат вярнуўся, людзі ляжалі покатам на зямлі і канчаліся ў муках.

Ён ведаў як ацаліць чалавека, сумняваўся, аднак, ці атрымаецца. Ці паслухаюць яго добрыя сілы? Малодшы брат распаліў касцёр, адправіў малітвы, спаліў некалькі сцяблін чарадзейных зёлак і выканаў танец агню. Агонь пачуў просьбу. Ён праглынуў хваробу і людзі ажылі. Таму па сёняшні дзень для народу эвенкаў агонь святы. Яго „кормяць" пачынаючы бяседу. Тады кідаюць частку ежы і пітва ў касцёр. Ды заўсёды ў час сямейных і каляндарных абрадаў ладзяць агню магічны танец з песнямі.

А што з сабакам-здраднікам? Людзі, згодна меркаванню малодшага брата, сталі высакароднымі. Яны прабачылі жывёле і зноў прынялі яго ў сваю грамаду. Зараз сабака, алень і лес — найлепшыя сябры эвенка!

**ЗОРКА**

*Эвенкі — сібірска-маньчжурскі народ, лікам да 70 тысяч, які пражывае ў Расіі, Кітаі, Манголіі. Найахвотней абмінаюць вялікія гарады і пасёлкі, каб жыць у невялікіх групах і зручна перамяшчацца па палаўнічых сцежках. Найбольш эвенкаў, каля 20 тыс., зарэгістраваных у Якуціі. У грамадстве ходзяць чуткі і пра „дзікіх" эвенкаў — качаўніча-вандроўныя групы без дакументаў і прапіскі. Афіцыйна прынялі яны праваслаўе, аднак гэта не перашкаджае ім практыкаваць шаманізм і анімізм.*



# Музыка з кайфам

## Хто ты?




„Ня быць скотам" абазначае не маўчаць, гаварыць пра свае справы, пра тое, што нас не толькі турбуе, а проста даймае! Гэта дэвіз, які пакідае пад развагу сваім слухачам Сяргей Міхалок, лідар гурту „Ляпіс Трубяцкой". Гэта дэвіз, які пасля апошняга Дня Волі павінен застацца з кожным беларусам, які цэніць сабе свабоду і незалежнасць.

„Ня быць скотам" гэта загаловак апошняга сінгла „Ляпісаў", які не толькі заяўляе пра новы альбом, але з-за папулярнасці самога гурту стаў самым папулярным заклікам апошніх месяцаў. Успамінаю пра гэтую песню ў час, калі ўзровень патрыятызму пасля святкаванняў 25 Сакавіка знойку натуральна ападае і набліжаецца да нормы. Што з'яўляецца нормай? Сітуацыя, калі ў Беларусі пазітыўных змен не бачым, а па-за межамі адбываецца асіміляцыя беларусаў да культур большасці. Маладое пакаленне, аднак, нейк трымае пры сабе камп'ютар (калі бацькі не ў змозе), таму што ў сеціве можам знайсці стольکі крыніц стандартнай і нестандартнай інфармацыі ў якасці, напрыклад, віралаў! Цікавым віралем можна назваць фільм, у якім згаданы лідар паказвае сваю кватэру і расказвае як яму жывецца па-за межамі Беларусі, куды не прыязджае пад пагрозай затрымання ці допытаў. Можа не віралем, але як звычайна ў выпадку „Ляпісаў", проста класным відэа-сюжэтам з'яўляецца кліп на песню „Ня быць скотам". Выпрадукаваны ў Кіеве запрашае нас на сустрэчу з беларусамі пачатку XX стагоддзя. Пра такія постаці расказвае ў сваёй паэзіі Янка Купала, аўтар тэксту з 1908 года. Класік пытаецца ў вершы „Хто ты гэткі?" і хаця змена загалоўка Міхалком становіцца вельмі моцным акцэнтам, то Купала таксама не прыдумаў абыякавага эмацыянальна загалоўка. Ёсць пра што думаць! І ты, слухач, спытай сябе: „Хто я?". Каб адказ не схапіў цябе знянацку, перайдзі хуткія курсы па беларускай гісторыі разам з Купалам і „Ляпісамі", асабліва таму, што сёлета адзначаем 70-ю гадавіну з дня смерці беларускага класіка. Хочацца сказаць: купляй Купалу! Неабавязкова за грошы, неабавязкова ў краме...

i_basovka@o2.pl


Фота Ганны Кандрацюк

**Павел ЗАСІМ, Семяноўка**

# Апалаканне слоў

*Падумай: хто ты?*
*Падумай я: гаспадар сваёй галавы.*
*Калі схачу пайду,*
*Калі схачу маўчу.*
*Ніколі не знаў іншых поглядаў*
*І позіркаў зайздросных людзей.*
*Хочуць патаптаць цябе,*
*А часам хочуць цябе цалаваць.*

*Апалакай душу,*
*Каб з чыстым сэрцам пайсці ў*
*Далёкі свет.*

* * *

*Памятаеш яшчэ гэтае пачуццё?*
*Ты забыў?*
*Забыў, што найлепшае.*
*Пакінуў родную краіну*
*Цяпер твая хата не ў лесе*
*А на бетоннай лужыне.*
*Яшчэ прыйдзеш, сынок.*
*Твая маці яшчэ ў акне*
*Твой твар яшчэ пазнае.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 14

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 10:

Тут, сола, ухіл, гульня, крата, Ян, на, кураня. Струк, рок, туга, хутар, сіла, моль, няня, паляна.

Узнагароды, CD *Дзінь-Дзілінь: пара гуляць у казкі*, выйгралі **Павел Валкавыцкі, Мікола Бірыцкі** з Нараўкі, **Юстына Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Марцін Аврарчук** з Арэшкава, **Рафал Вакулюк** з Гайнаўкі, **Куба Ваўранюк** з Нарвы. Дадаткова гэты прыгожы кампакт-дыск рэдакцыя прысвоіла настаўніцам **Анне Кандрацюк** з Нараўкі і **Ніне Куптэль** з Дубін. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Marzenie | Maraton | |
| Odwaga | Sitka | Zupa | Trzęsawisko bagno | | Hit / Kino | | | |
| Szum | Szyba | | | | | | | |
| Dzika róża | | | | Rdza | | | | |
| | | | | | | | Ty | |
| | | | | | | | | |
| Aura | | | | | Tyn | | | |

# Пад знакам Максіма Танка

■ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Важна, што мы, як фіналісты алімпіяды, не будзем здаваць матуральных экзаменаў па беларускай мове, а атрымаем па іх 100% магчымых да здабыцця балаў. Калі б пашанцавала і сталі мы лаўрэатамі, гэта дадатковая прывілея і магчымасць паступіць на цікавую спецыяльнасць у вышэйшай установе без конкурснага адбору. Аднак самым важным лічу, што рыхтуючыся да алімпіяды мы больш пазнаёміліся з беларускай літаратурай і гісторыяй Беларусі, якія важныя ў нашым жыцці, як беларусаў, — сказала Лідзія Пякарская з ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, лаўрэат першага месца сёлетняга выпуску.



Удзельнікі цэнтральных элімінацый Алімпіяды па беларускай мове

XVIII Алімпіяда па беларускай мове, якой цэнтральныя элімінацыі адбыліся 15 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, праходзіў пад знакам беларускага пісьменніка Максіма Танка, якога сотая гадавіна з дня нараджэння адзначаецца сёлета. Вядучая тэма алімпіяды гучала „Палякі і Польшча ў жыцці і творчасці Максіма Танка".

— Максім Танк, гэта выдатны і цікавы беларускі паэт, творчасць якога адзначаецца высокім узроўнем. Аднак у сваёй даваеннай творчасці крытыкаваў ён умовы жыцця беларусаў у Польшчы, але нічога крытычнага не напісаў аб калектывізацыі і сталінскім тэроры ў Беларусі, — сказаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, старшыня аргкамітэта алімпіяды і былы загадчык Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Дадаў ён, што не будзе мець нічога супраць, калі ў сачыненнях вучняў або ў вусных выказваннях паявяцца крытычныя выказванні аб Танку.

— Цяжкімі былі тэмы сачыненняў, бо мы, рыхтуючыся да алімпіяды, аналізавалі творчасць Максіма Танка пад іншым ухілам, чым было запрапанавана ў тэмах. Звярталі мы ўвагу перш за ўсё на ролю жанчын у яго творчасці, на ролю маці, аналізавалі прыродаапісальную творчасць і, канешне, звярталі ўвагу на вядучую тэму алімпіяды. У пісьмовых працах трэба было, напрыклад, параўноўваць творчасць Танка да творчасці іншых беларускіх пісьменнікаў, — сказалі бельскія белліцэісткі Віялета Маліноўская, Аксана Леанюк і Эвеліна Дзікоўская.

Вучням трэба было напісаць сачыненне на адну з трох прапанаваных тэм: 1) У якім з даваенных зборнікаў Максіма Танка найбольш праўды аб душы і жыцці беларусаў у Польшчы? 2) Характарыстыка творчасці беларускіх пісьменнікаў, якія, як і Максім Танк, распачалі сваю літаратурную кар'еру ў даваеннай Польшчы. 3) Хто, на тваю думку, з пісьменнікаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" найбліжэй да духу паэзіі Максіма Танка?

— Рыхтуючыся да алімпіяды, мы звярталі ўвагу перш за ўсё на сувязі Танка і яго творчасці з палякамі, а гэтага практычна не было ў тэмах пісьмовых прац. Тэмы сачыненняў былі зразумелымі, але, пішучы, баяліся мы, што правяраючыя могуць зрабіць нам закіды, што не трымаліся мы тэмы працы, — сказала Ніна Ваўранюк з Беластока.

— У сачыненнях перш за ўсё трэба было пісаць пра сувязі Танка з беларускімі пісьменнікамі, — дадала Лідзія Пякарская з Беластока.

— Я лічу, што тэмы сачыненняў былі вельмі цяжкімі для нашых ліцэістаў, бо мы, рыхтуючыся да алімпіяды, звярталі ўвагу на яе лозунг „Палякі і Польшча ў жыцці і творчасці Максіма Танка". У мінулых гадах прынамсі адна тэма непасрэдна тычылася лозунга алімпіяды, а сёлета такой тэмы не было. У гэтым годзе вучням трэба было больш падрабязна ведаць творчасць „белавежцаў", ці даваенных беларускіх пісьменнікаў, — сказала Іаанна Васілюк, настаўніца беларускай мовы ў ІІІ Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку.

Гайнаўскія белліцэісткі Анна Хвашчынская, Барбара Хіліманюк і Юстына Раманюк сказалі, што паводле іх тэмы да пісьмовых работ не былі складанымі, але і не былі лёгкімі. Гайнаўскія вучні пісалі сачыненні на розных тэмах.

— На маю думку, тэмы сачыненняў былі, аднак, складанымі, бо нашы вучні рыхтаваліся да алімпіяды крыху ў іншым накірунку, чым прапанавалася ў тэмах пісьмовых прац. Бачу, што многія нашыя ліцэісты глядзяць на гэта панашаму. Можа іх маладосць паўплывала на тое, што глядзяць яны на складанасць тэм з большым аптымізмам, — сказала настаўніца беларускай мовы з Гайнаўкі і заадно метадыст па беларускай мове Іаланта Грыгарук.

— Калі гаварыць пра беларускіх пісьменнікаў, якія, як і Максім Танк, распачалі літаратурную кар'еру ў даваеннай Польшчы, вучні маглі звярнуць увагу, напрыклад, на творчасць Наталлі Арсенневай, Міхася Васілька, ці Хведара Ільяшэвіча. Што тычыцца пытання пра пісьменнікаў „Белавежы", якім найбліжэй да паэзіі Максіма Танка, то вучні маглі пісаць пра Віктара Шведа, мяне і практычна пра ўсіх іншых „белавежцаў", якія ж у сваёй творчасці апісваюць жыццё на тэрыторыі польскай дзяржавы, што і рабіў таксама Максім Танк, — гаварыў прафесар Аляксандр Баршчэўскі.

Вучні змагаліся таксама з граматычным тэстам і перакладам тэксту „Puszcza Białowieska" з польскай мовы на беларускую. У задачах трэба было напісаць лічэбнікі ў адпаведным склоне, устаўляць „ь" або апостраф у словы, устаўляць адпаведныя словы ў тэкст і напісаць поўнымі словамі абрэвіятуры, напрыклад „ААН", „ВКЛ", „ЗША", „РБ", „РП", ці „філфак".

— Тэст па граматыцы не быў складаным, але вучні наракалі на задачу, у якой трэба было расшыфраваць абрэвіятуры, — гаварыла настаўніца з Беластока Іаанна Васілюк.

Вучні з іншых школ таксама гаварылі, што найцяжэй было ім справіцца з абрэвіятурамі. Хаця большасць абрэвіятур была простая для расшыфроўкі, то вучні маглі іх не ведаць, калі ў школе спецыяльна імі не займаліся. Рыхтуючыся да вусных адказаў, вучням трэба было выбраць 3 тэмы (мінімум 2 з ліку 64 прапаноў, падрыхтаваных арганізатарамі алімпіяды, бо адна прапанова вучня магла быць уласнай). Камісія мела вырашаць па якой тэме з трох прапанаваных вучнем будзе ён самастойна выказвацца, а па якой члены камісіі будуць ставіць пытанні. Мелі яны ацаніць ліцэістаў, звяртаючы ўвагу, між іншым, на падборку матэрыялаў для выказванняў, іх цікаўнасць, знаёмства ліцэістаў з закранутымі праблемамі, ці на веданне вучнямі беларускай літаратурнай мовы. Рыхтуючыся да цэнтральных элімінацый вучням трэба было прааналізаваць беларускую літаратуру, а сярод тэм прапанаваных да вусных выказванняў былі таксама такія, якія тычыліся абрадаў, гісторыі выбраных мясцовасцей, беларускіх масавых сродкаў інфармацыі, культурных мерапрыемстваў і арганізацый. Падбіраючы тэмы да вусных адказаў, удзельнікі алімпіяды найчасцей рашаліся выказвацца на падставе пытанняў па беларускай літаратуры, але былі таксама выключэнні.

— Адну тэму я падабрала з-па-за літаратуры і хачу расказваць, калі камісія запрапануе мне гэтую тэму, пра беларускія мерапрыемствы, пра Купалле, „Бардаўскую восень", „Басовішча" і фестываль „Беларуская песня", — гаварыла Аксана Леанюк з Бельскага белліцэя.

— Я перад камісіяй расказвала пра беларускія арганізацыі — Звяз беларускай моладзі, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і Беларускае аб'яднанне студэнтаў і мне перарвалі выказванне. Звярталa я ўвагу, што арганізацыі дбаюць пра ўзмацненне беларускасці сярод нашага насельніцтва, — заявіла пасля вуснага адказу Юстына Іванюк з Гайнаўскага белліцэя.

— Я падрыхтавалася расказваць пра Вярсток, бо гісторыя гэтага прыхода і вёскі цікавая, — заявіла Юстына Раманюк з Гайнаўскага белліцэя.

Ліцэісты, якія прыступаюць да Алімпіяды па беларускай мове, рашаюцца змагацца перш за ўсё за індывідуальную перамогу, каб атрымаць званне лаўрэата, што дае магчымасць паступаць па-за традыцыйным адборам на шматлікія спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах у Польшчы. Некаторыя з вучняў хочуць прынамсі дабрацца да цэнтральных элімінацый і стаць фіналістамі алімпіяды.

— Важна, што мы, як фіналісты алімпіяды, не будзем здаваць матуральных экзаменаў па беларускай мове, а атрымаем па іх 100% магчымых да здабыцця балаў. Калі б пашанцавала і сталі мы лаўрэатамі, гэта дадатковая прывілея і магчымасць паступіць на цікавую спецыяльнасць у вышэйшай установе без конкурснага адбору. Аднак самым важным я лічу, што, рыхтуючыся да алімпіяды, мы больш пазнаёміліся з беларускай літаратурай і гісторыяй Беларусі, якія важныя ў нашым жыцці, як беларусаў, — сказала Лідзія Пякарская з ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, як пасля аказалася — лаўрэат першага месца сёлетняга выпуску.

— Раней нашы вучні больш масава карысталіся прывілеямі нашай алімпіяды і часцей паступалі на прэстыжныя спецыяльнасці ў вышэйшых установах па-за конкурснымі адборамі, а апошнім часам штораз больш нашых ліцэістаў рашаюцца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Беластоку з-за намнога ніжэйшых коштаў вучобы тут у параўнанні, напрыклад, з Варшавай, дзе якраз Варшаўскі ўніверсітэт дае многа прывілеяў для лаўрэатаў, а нават для фіналістаў нашай алімпіяды (такія прывілеі абавязваюць таксама на многіх вышэйшых установах у іншых гарадах Польшчы — А. М.). Штораз больш бацькоў у змозе прафінансаваць адукацыю сваіх дзяцей толькі блізка дому, у Беластоку, дзе, напрыклад, можна знайсці таннейшую кватэру. Аднак, на жаль, якраз у Беластоку пераможцы алімпіяды па беларускай мове могуць паступіць па-за конкурсам толькі на беларускую філалогію, — сказала настаўніца Іаланта Грыгарук.

— Мы думаем, што апрача прывілеяў Алімпіяда па беларускай мове спрычыняецца да павышэння беларускай нацыянальнай свядомасці яе ўдзельнікаў, — гаварылі бельскія белліцэісткі Беата Шкода, Анна Андрусевіч, Кацярына Брэнька і Аляксандра Семянюк.

Пасля праверкі конкурсных прац і падлічэння ўсіх балаў аказалася, што лаўрэатамі алімпіяды сталі Лідзія Пякарская з ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку (І месца), Міхаліна Герасімюк з Гайнаўскага белліцэя (ІІ месца), Малгажата Цэтра з Гайнаўскага белліцэя (ІІІ месца), Давід Якубоўскі з Гайнаўскага белліцэя (IV месца), Віялета Маліноўская з Бельскага белліцэя (V месца) і Юстына Раманюк з Гайнаўскага белліцэя (VI месца). У цэнтральных элімінацыях алімпіяды прынялі ўдзел 11 вучняў з Гайнаўскага белліцэя, 7 асоб з Бельскага белліцэя і 2 вучаніцы з ІІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку і асобы, што не дабіліся звання лаўрэата, сталі фіналістамі алімпіяды.

Мемарыяльны крыж у памяць закаханай шляхцянкі ў Гарчаках



■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# На Адэльшчыне

## (заканчэнне, пачатак у папярэднім нумары)

Хаця Адэльска не ўдалося мне пабачыць з войнаўскага ўзгорка, зaгляну ў я туды цераз Сеціва. І так, энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана так апісвала Адэльск пачатку XX стагоддзя: „Существовал уже в начале XVI в. Жителей 1828 (937 мужчин): православных 10, католиков 1578, протестантов 16, евреев 212, прочих исповеданий 12; дворян 5, почетных граждан и купцов 4, духовного звания 8, мещан 1479, военного сословия 115, крестьян 186, прочих сословий 31. Католическая церковь; домов 282. Жители исключительно занимаются хлебопашеством”. Напалеон Роўба ў 1909 годзе пісаў так: „Ludności około 1500 osób płci obojej. Parafjalny kościół drewniany, pod wezwaniem N.M.P., wzniesiony przez Zygmunta III w r. 1660. Okolica wzgórzysta, bezleśna. Stare przysłowie: „Ład, jak w Odelsku” daje nieprzychylne świadectwo miasteczku”. А Станіслаў Пачобут-Адляніцкі дапаўняе гэта ўсё наступным чынам: „Najwcześniejsza wzmianka o miejscowości leżącej u początków rzeczki Odły (stąd i nazwa), którą udało się nam odnaleźć, pochodzi z roku 1490. Wtedy to wzniesiono tu świątynię z drewna, używając materiałów ze świerków i sosen, których dookoła nie brakowało. Trzebiło się w tamtych czasach lasy niemiłosiernie, stąd dzisiaj wszędzie — jak okiem sięgnąć — pola. Pamięć ludzka w perspektywie historycznej jednak krótka. Nie możemy więc nie pochwalić rozrosłej jak pokrzywa na zgliszczach dawnej królewskiej, państwowej biurokracji, płodzącej papiery i dekrety, które są potem skarbem dla tropicieli historii. To dzięki nim wiemy, że najuciążliwszy był dla mieszkańców Odelska okres wojen szwedzkich. (...) Mówią, że historia się nie powtarza, ale figla co jakiś czas lubi spłatać. Miejscowi twierdzą, że Odelsk nie został po II wojnie po polskiej stronie tylko dlatego, że miał kilka budynków murowanych. Spodobały się władzom sowieckim, a to lenie. Wszystko psu pod ogon! — wzdychali odelszczanie. Ileż zebrano podpisów, aby zmienić sytuację. NKWD inicjatora tych podpisów, dyrektora miejscowej szkoły Ignacego Mazura na 10 lat zesłało „na naukę” sowieckiej więziennej pedagogiki. (...) Po dawnej sławie miasteczka nie pozostało prawie nic. Miniony czas zabrał ze sobą i wiatraki, i charakter ludzi od wieków tutaj mieszkających. Po polsku rozmawiają starsi, przedwojenne roczniki i to przeważnie panie, które, pogrzebawszy swoich mężów, mają jeszcze trzy radości: kościół, Radio Maryja i odwiedziny dzieci lub wnuków. (...) W centrum niezbyt już widocznego dziś starego rynku — drzewa i trawa do kolan. Na skraju — „biust” (popiersie) „wiecznie żywego” Iljicza osadzony na masywnym postumencie. (...) Stary kościół drewniany, murowana dzwonnica, pochylone bramy przy wejściu na dziedziniec kościelny, posłuszny władzom proboszcz wyjechał. Wszystko obok siebie. Polskość tutaj odchodzi, umiera, góruje pijaństwo i tradycyjne już „...a na szto mnie heta patreba?” („a co mi do tego?”) oraz ciekawość jakim sposobem nieznajomy człowiek dotarł aż tutaj, do strefy granicznej, czy ma przepustkę i kto pierwszy doskoczy z donosem...”. Да гэтага варта дадаць яшчэ адну касцельную цікавінку — у Адэльску 3 студзеня 1946 года нарадзіўся арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, цяперашні мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

Школа ў Войнаўцах, якая на канцы вёскі з боку Адэльска, даўно пустуе. Як паінфармаваў мяне спадар Стасевіч, сяляне хочуць зрабіць у ёй вясковы клуб, Маршалкоўская ўправа прызначыла ўжо нават грошы на адаптацыю будынка, толькі няма ўласнага ўкладу гміны, бо Шудзялаўская гміна — найбольш задоўжаная ў ваяводстве. Раней, калі школа яшчэ працавала, была там рэгіянальная ізба, да якой шмат рэквізітаў сабраў спадар Стасевіч, але калі школу ліквідавалі, яны кудысьці расцерушыліся. Сам солтыс вельмі заклапочаны сваёй вёскай, збеpажэннем яе мінулага, якога і так нямнога захавалася — некалькі склепаў, свірнаў. Школа ў Войнаўцах была збудавана з матэрыялу, што астаўся ад маёнтка ў Гарчаках; з таго ж самага матэрыялу была пабудавана і школа ў Мінкоўцах. Паўкіламетра на поўдзень ад Войнаўцаў растуць тры разгалістыя сасны — гэта месца колішніх моравых могілак. А сама вёска выглядае даволі прыстойна. Дарэчы, у 10-м нумары „Нівы” з 1980 года Мікола Гайдук так пісаў пра Войнаўцы: „Сёння войнаўцы ставяць мураванкі з сіпарэксу, такія ж, як у Саколцы ці Беластоку. Не „душацца”, як некалі, за купменнай агароджы.

Паміж гэтымі дзвюма вёскамі, на расхадных дарогах, стаіць арыгінальны цэментны крыж. Пра яго Мікола Гайдук быў пісаў наступнае: „Даўніна тут прамаўляе легендамі... Вось хоць бы пра нейкіх двух трачоў — „кацапаў”, г.зн. якія паходзілі з глыбіні Расіі. Яны доўгі час трачавалі ў Гарчаках, г.зн. саматуж рэзалі бярвёны на будаўнічы матэрыял: дылі, дошкі і г.д. Абодва закахаліся ў прыгожую шляхцянку, якая іх таксама пакахала. Аднак бацькі не дазволілі ёй, шляхцянцы, выйсці замуж за аднаго з гэтых „прастакоў” і яна памерла з кахання. Трачы моцна сумавалі і ў памяць ёй паставілі на ростанях паміж Горнымі і Дольнымі Гарчакамі вялікі цэментны крыж. У тыя часы цэмент быў страшэнна дарагі, і яны ахвяравалі на гэты помнік усе грошы, якія дагэтуль зарабілі сваёй цяжкой працай”. У абедзвюх частках Гарчакоў стаяць таксама дзве падобныя на сябе мураваныя капліцы, пабудаваныя, бадай, у міжваенны час.



Арыгінальная агароджа ў Войнаўцах

З Гарчакоў-Дольных да бабіцка-сакольскай асфальтоўкі каля кіламетра жвіроўкі, якую Гайдук яшчэ называў балоцістай топеллю. І каля трохсот метраў адтуль у напрамку Саколкі адмысловы стэнд запрашае карыстальнікаў шашы на месца адпачынку трыста метраў далей. Меркаваў я, што яно пры шашы і павярнуў у лясную дарожку ў напрамку Бабpоўнік. Але тое адпачынковае месца аказалася амаль у лясной глушы, было там крыху попелу ад вогнішча і шмат завостраных арэшынавых кіёчкаў для паджарвання „грыля”. Да Бабpоўнік адтуль каля двух кіламетраў.

І гэтай вёскі не абмінуў сваёй увагай нястомны Мікола Гайдук; вось што ён напісаў пра яе ў 41-м нумары „Нівы” ад 1977 года: „Пачаткі Бабpоўнікаў крыюцца ў далёкім мінулым, недзе ў XV стагоддзі, калі ў аграмаднай Гродзенскай пушчы, што прасціралася тады ад Коўна на поўначы і да ракі Супраслі на поўдні, ад ракі Нёман на ўсходзе і да Райграда на захадзе, пачалі спачатку часова, а потым і стала пасяляцца *асочнікі, касары, бортнікі, бабpоўнікі*, якія паходзілі з ваколіц Гродна. Вялікія князі марнатраўнаю рукой раздавалі аграмадны абшар сваім прыбліжаным Радзівілам, Бауфалам, Валовічам, Кундам, Галецкім і іншым, але адначасова дзе-нідзе заснoўвалі свае „гаспадарскія” двары, між іншым Малявічы і Сакалду. Пры гэтых дварах паўставалі таксама паселішчы вялікакняжацкіх падданых, абавязкам якіх было даглядаць пушчу і звярыну ў ёй. Бабpоўнікі і былі такім паселішчам аднаго ці двух сялян, пры двары ў Сакалдзе, яны сачылі за бабровымі жарэм'ямі на Ласоснай, Сакалдзе, Каменнай і іншых рэчках. (...) А што гэтая вёска мела нейкае дачыненне да вялікакняжацкага двара ў Сакалдзе, побач якога пазней вырасла сённяшняя Саколка, сведчыць якраз тое, што сенажаці яна атрымала на рацэ Сакалдзе каля Саколкі”. Ды і ў цяперашнім адміністрацыйным плане Бабpоўнікі астаюцца ў Сакольскай гміне, а не ў Шудзялаўскай, да якой Бабіцкую гміну далучылі ў 1976 годзе.

Сённяшнія Бабpоўнікі выглядаюць у прынцыпе так, як і іншыя навакольныя вёскі. Праўда, тут кідаецца ў вочы адна асаблівасць — наяўнасць адмысловай пляцоўкі для дзіцячых гульняў са свежымі канструкцыямі. Відаць у вёсцы ёсць шмат дзяцей, а значыць і будучыня.



Каплічка ў Бабpоўніках

Ляй скібы зямлі. Жывуць добра”. І хаця з таго часу крыху народу выехала ў гарады, дзетак крыху ёсць, так як і ў Мінкоўцах, якіх гімбус возіць у Бабікі і Шудзялава.

Войнаўскія палеткі яшчэ абрабляюцца, але вось у напрамку Гарчакоў бадай больш паловы іх пад маладым лесам — участкі лесу перамешваюцца там з яшчэ абрабляемымі палосамі поля. Яшчэ ў 1985 годзе Мікола Гайдук быў пісаў пра Гарчакі м.інш. наступнае: „Але неабходна падкрэсліць, што з Гарчакоў людзі не ўцякаюць і зямлі не здаюць у ПФЗ. Гэта адзіная ў гміне і адна з нямногіх ва Усходняй Беласточчыне вёска, у якой хутка павялічваецца колькасць насельніцтва”. У Гайдукоў час жыла ў Гарчаках 151 душа, колькі жыве зараз не надта вядома, бо на адным з інфармацыйных парталаў Шудзялаўскай гміны ёсць лік 129, толькі не надта вядома, калі гэтая інфармацыя абнаўлялася. Дарэчы, вёска, якая па сутнасці зараз складаецца з дзвюх частак: Гарчакоў-Горных з боку Войнаўцаў і Гарчакоў-Дольных з боку Саколкі, не выглядае на надта апусцелую. Да вайны ў Гарчаках былі маёнткі сям'і Гарчакоў, якія, як ужо згадвалася, пасля вайны былі распарцаляваны. Ад сядзібы найбуйнейшага з іх зараз астаўся, здаецца, толькі слаба захаваны мур ка



Іаанна ЧАБАН

# З крынкаўскіх эпізодаў

*Перад самім 2012 годам паявіліся ў мяне сімптомы нейкіх паскудных жаночых хвароб. Наогул не наведваю доктарскіх кабінетаў, але змены ў самаадчуванні сур'ёзна мяне напалохалі. Аказалася, што святочна-навагодні час ёсць самым неспрыяльным на атрыманне медыцынскай дапамогі, хіба што маеш дастаткова грошай, каб аплаціць прыватны візіт. Здалася я поўнасцю на Божую дапамогу і рушыла ў раней запланаванае паломніцтва ў Пачаеў, рызыкуючы або паглыбленне сімптомаў па прычыне занядбання, або цудоўнае аздараўленне. Пару тыдняў пазней дачакалася таксама сваёй чаргі ў рамках бясплатнага медыцынскага лячэння ў Саколцы. На дагавораны прыём паехала я „пэкаэсам" у 7:00 раніцы. На крынкаўскім, найчасцей пустым аўтобусным прыпынку сабралася крыху школьнікаў сакольскіх сярэдніх навучальных устаноў і настаўніц, што ехалі на работу ў шудзялаўскую школу. Хуткасць публічнага транспарту дазволіла мне вывучыць па дарозе словы цэлай даволі доўгай народнай песні родам з падсакольскіх Гарчакоў.*

*Саколка ў восем раніцы яшчэ спала, толькі недзе дарогу перасякалі спозненыя пажылыя мужыкі з чыноўніцкімі партфелямі, напэўна спяшаючыеся на свае перадапошнія рабочыя дзяжурствы.*

*Памяшканне медыцынскай дапамогі змяшчалася ў мёртвым квартале яўрэйскіх, яшчэ ў добрым стане захаваных мураванак, якіх па-вясковаму пільнуюць даволі заядлыя сабакі. Прымаў мяне слаўны ў навакольным прыхварэлым жаночым асяроддзі доктар з далёкіх цёплых краін, які някепска прыжыўся ў адной з падсакольскіх вёсак. Чалавек захапіў мяне сапраўднай інтэлігентнасцю, якая выяўлялася між іншым у высокай асабістай і прафесійнай культуры. Правёўшы некалькі сур'ёзных пошукаў маіх недамаганняў сцвердзіў, што я поўнасцю здаровая і запрасіў на чарговыя прафілактычныя кансультацыі праз год. Значыць, усё-такі Бог выслухаў шчырых малітваў на пачаеўскай гары, яшчэ не кліча мяне да сябе, а дае сілы для далейшых змаганняў.*

*Накупіўшы поўную торбу выдатных сакольскіх булак з капустай (такіх смачных я нідзе ніколі не ела!), я хутка накіравалася на аўтобусны вакзал, каб як раней паспець дахаты і выручыць бацьку, які ледзь знайшоў пару гадзін, каб заапекавацца маёй дачкой.*

*Вакзальнае наваколле ў сакавіцкі перадпоўдзень, з балотам па косткі, больш напамінала запушчаны хлеў, чым прадстаўнічае месца горада. Побач з велізарнай абдзёртай чыгуначнай мураванкай знаходзіцца жалезная буда з касай продажу аўтобусных білетаў. Каб да яе дабрацца, трэба прайсціся дзіравым бетонным тратуарам і пазмагацца некалькі метраў з гразёю. Людзей кругом як на лякарства, у балоце стаяла пару таксі. Цікава, ці ім трапляюцца кліенты, а калі так, якую машыну яны выбіраюць: ці кіруюцца ейнай вонкавай прыгажосцю, ці мо садзяцца ў першую па чарзе? Мяне цікавіла, ці і ўвогуле з гэтай балотнай пустыні адправіцца які-небудзь аўтобус у Крынкі. Дзверы жалезнай білетнай буды былі зачыненыя. Значыць, звольнілі касірку. Шкода, такая добрая, ветлівая жанчына была, вельмі дбала аб сваю працу, напэўна прадчуваючы яе хуткі канец. Заўсёды з людзьмі яна гаварыла, ніхто і расклад язды не чытаў, — касірка сама інфармавала пра ўсялякія змены і самыя выгадныя маршруты (а гэтых апошнім часам станавілася штораз менш). Была яна ўжо немаладая, таму напэўна не будзе ёй лёгка знайсці які-небудзь заробак... Добра, што мінулі маразы, а то і схавацца тут няма дзе. Буда, хаця без печкі, выдатна абагравалася дабрынёй касіркі і цікавымі размовамі вясковых пасажыраў, якія вялі іх прыцішанымі галасамі на беларускай мове.*

*Асталася толькі надзея на лямінаваны расклад язды аўтобусаў, як павесілі над лаўкай з дашком, хаця трывожыў недахоп людзей чакаючых аўтобуса. Неўзабаве сабралася іх чацвёра, у сур'езных гадах. Яны зараз завялі размову над маёй галавой.*

*— Я цябе ведаю, ты ў пэгеэры шудзялаўскім працаваў, а я ў крынскім, мы вам свіней прывозілі, а ты потым, мусі, у катлоўні паліў у блёках...*

*— Ужо не працую, няма катлоўні, людзі печкі ў кватэрныя кухні паўстаўлялі, цяпер „кожны хам палі собе сам".*

*Зараз тут і жанчына далучылася да размовы:*

*— А вы напэўна параіце, якую печку мне купіць — дачка хоча на вёсцы цэнтральнае ўставіць, як прадам зямлю, то каларыферы куплю.*

*Пачуўшы пра справу, уключылася і я:*

*— Вы хочаце зямлі пазбыцца? У мяне ў хаце таксама печкі, ці вы ведаце, што яны больш эканомныя?*

*— Ведаю, але ж дачка хоча! Яна са мною жыве, зямлёй няма каму заняцца, зяць даязджае ў Саколку на працу, а дачку звольнілі, безработная сядзіць.*

*— Дык вы пачакайце: калі голад прыйсцне, то і гектары, і печкі будуць даспадобы.*

*Неабыякавай да ведзеных размоў была і чацвёртая пасажырка:*

*— Цяпер бяда паўсюль, людзі таксама памяняліся. Ёсць добрыя, але колькі і зайздросных, якія не толькі ў нядолі не дапамогуць, але і пасмяюцца над тваім няшчасцем. Некаторым жанчынам багатыя мужыкі пападаюцца, жывуць у дастатках, а другім — хоць ты сядзь і плач!*

*Я тады дастала з торбы словы толькі што вывучанай гарчакоўскай песні і прачытала ў голас сабраным:*

*Ożenił się chłop Marusi*
*I wziął żona z białej Rusi.*
*Och! Ja biednaja,*
*Biedna główka moja*
*Zrucaj, pani, rękawiczki,*
*Pomyj łyżki, dojniczki...*
*Zrucaj, pani, swe potynki,*
*A włóż łapcie, popędź świnki.*
*Matka o tym dowiedziała,*
*Sześćmi końmi przyjechała:*
*Gdzie ty, córko, to podziała,*
*Że ja tobie nadawała?*
*Ja to wszystko sprzedawała,*
*Chleba, soli kupowała.*
*Gdzie ty podział te manele,*
*Co przyjeżdżał na wesele?*
*Cudze były, to nie moje,*
*Każdy pobrał jakby swoje.*
*Bodaj, zięciu, głowa skręcił,*
*Jak do mojej córki jeździł.*
*Nie klnij, nie klnij, matko, zięcia,*
*Zabierz córka iz dziecięciem.*
*Och! Ja biednaja,*
*Biedna główka moja!*




# http://palitviazni.info

Наяўнасць палітзняволеных — ганьба для кожнай краіны. Але чамусьці так атрымоўваецца, што праз гэты гістарычны этап у розныя часы прайшла большасць краін свету. Згодна закону нераўнамернасці гістарычнага развіцця, у свеце адначасова могуць існаваць супольнасці, якія знаходзяцца ў розным гістарычным „узросце". Сыходзячы з гэтага пункту гледжання і наяўнасці закратаваных за свае палітычныя погляды, цяперашняя Беларусь у нечым роўная Польшчы 20-30 гадоў XX стагоддзя.

Праўда, такі цынічны падыход да праблемы палітзняволенных наўрад ці падзеляць блізкія і родныя тых, хто сёння ні за што сядзіць за кратамі. Не падзеляць яго і тыя, хто робіць вялікія высілкі, каб з турмаў і калоній выйшлі тыя, каго ўжо можна назваць гонарам беларускай нацыі. Не падзеляць яго і тыя тысячы простых беларусаў, якія паспелі за апошнія гады пачаставацца турэмным супам цягам дзесятка сутак адміністратыўнага арышту за спробу паказаць, што яны не згодны быць нікім.

Дзеля таго, каб перыяд цемрашальства ў беларускай гісторыі як мага хутчэй застаўся ў мінулым, робіцца многае. Прыкладам таму можа быць сайт, што прысвечаны беларускім палітзняволеным перыяду лукашэнкаўскага праўлення.

Сайт „Свабоду палітвязням!", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://palitviazni.info**, згодна яго архіва, існуе ад мая 2009 года. Але толькі за апошнія паўтары гады ён стаў пастаянна абнаўляцца, да яго дадаюцца актуальныя навіны.

Будова сайта і яго навігацыя даволі простыя, што дазваляе адразу знайсці патрэбную інфармацыю. Усе выйсці на рубрыкі знаходзяцца пад назвай. „Гэты сайт прысьвечаны палітвязьням, якія пацярпелі ад дыктатарскага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь. Сайт створаны і працягвае стварацца дзеля таго, каб яшчэ раз нагадаць пра гісторыі жыцьця і перасьледу гэтых людзей. Для таго, каб мы, беларусы, не забываліся, у якой краіне мы жывем, і разумелі, што працягнуць сьпіс палітвязьняў можа кожны з нас. Каб людзі ўсяго сьвету ведалі, што ёсьць такая краіна — Беларусь, і што на нашай цудоўнай зямлі людзі сядзяць у турмах па палітычных матывах", — так тлумачыць стварэнне і працу сайта прадстаўнік яго рэдакцыі Таццяна Сьнітко ў рубрыцы „Пра сайт".

Першая старонка сайта змяшчае навінныя паведамленні. Яны з'яўляюцца падборкай той інфармацыі, якая праходзіла папярэдне на іншых сайтах. Праўда, у даным выпадку такі копіпэйст не раздражняе, бо ёсць разуменне, што дзякуючы яму мы можам даведацца аб палітзняволеных, не блукаючы па розных інтэрнэт-рэсурсах.

Наступная старонка „Усе палітвязні" змяшчае пералік роўна ста прозвішчаў людзей, якія калісьці былі асуджаны па палітычных матывах. Сярод іх, зразумела, былыя кандыдаты ў беларускія прэзідэнты — Аляксандр Казулін, Алесь Міхалевіч, Уладзімір Някляеў, Віталь Рымашэўскі, Андрэй Саннікаў, Мікола Статкевіч, Зміцер Вус, Міхаіл Чыгір.

Спіс тых, хто зараз нясе неабгрунтаванае пакаранне за свае палітычныя погляды, месціцца на старонцы „Зараз за кратамі", а таксама „З абмежаваннем волі". Там згадваюцца адпаведна пятнаццаць і дванаццаць асоб.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы БЕЛАРУСІ

### Гарадзенская „Пагоня"

25 сакавіка бягучага года споўнілася 20 гадоў з дня выпуску першага нумара гарадзенскай „Пагоні", легендарнай газеты найноўшай беларускай гісторыі, выдання, якое пакінула глыбокі след у сэрцах многіх журналістаў, уплывала на светагляд тысяч чытачоў. У гэты дзень не было ўрачыстага пасяджэння, не было кветак і святочнага стала з сяброўскай бяседай і іншымі належнымі атрыбутамі. Не было таму, што наша „Пагоня" не дасягнула сваёй светлай мэты, а агульная сітуацыя ў краіне не дазваляе цешыцца юбілеямі і адзначаць іх так як трэба ў нармальным грамадстве. У горадзе над Нёманам ужо даўно няма аніводнай незалежнай газеты, а тым больш такой, якая кшталтуе і нясе людзям праўдзівае беларускае слова. Засталіся толькі афіцыёзныя русіфікатарскія „рупары прапаганды". Беларускамоўныя журналісты сышлі ў нетры інтэрнэту. Што датычыць пагонеўцаў, то лёс іх склаўся па-рознаму. Нехта з „ветэранаў" дагэтуль працуе ў іншых беларускіх медыях, нехта з'ехаў за мяжу. Зміцер Кісель, надломлены знішчэннем усяго беларускага, у магіле. Мікола Маркевіч, стомлены змаганнем за права выдаваць незалежную газету, стаў працаваць у іншым кірунку. А некаторыя з тых маладых пачаткоўцаў, якія пачыналі творчы шлях у „Пагоні", сталі ўжо вядомымі журналістамі, лаўрэатамі розных прэстыжных узнагарод.

Што датычыць кароткага летапісу гісторыі „Пагоні", то на пачатку яна выходзіла раз у два тыдні, з траўня 1993 г. — раз у тыдзень, а на піку сваёй папулярнасці з ліпеня 1997 г. — нават два разы ў тыдзень. Потым пайшоў перыяд пераследу і ціску, што скончылася ўрэшце судом над рэдактарам Міколам Маркевічам і тады яшчэ маладым журналістам Паўлам Мажэйкам. Газета друкавала артыкулы на палітычныя і грамадска-сацыяльныя тэмы, асвятляла гаспадарку, культурнае, канфесійнае, спартовае жыццё рэгіёна. Значная частка газетнай плошчы аддавалася гістарычнай праблематыцы, краязнаўчым допісам, мемуарам-успамінам дзеячаў беларускага руху розных часоў. Сталымі рубрыкамі былі „Грамадства", „Палітычная сцэна", „Сумежжа" (газета ўпершыню рэгулярна знаёміла гарадзенцаў з жыццём і дзейнасцю беларусаў Беласточчыны), „Вайна і людзі", „Лёсы", „Наш каляндар". Асобнае месца займалі надзвычай папулярныя, вострыя палітычныя карыкатуры Алеся Суровага, некаторыя сюжэты прыдумвалі і журналісты. Трэба заўважыць, што нягледзячы на выразны рэгіяналізм, „Пагоня" распаўсюджвалася па ўсёй Беларусі. Рэдакцыя „Пагоні" месцілася па двух асноўных адрасах, якія адпавядалі двум перыядам выдання. Сталенне адбывалася ў будынку па вуліцы Дамініканскай (цяперашняя вуліца Савецкая, 10). Тут суседнічалі і многія іншыя беларускія арганізацыі — „Бацькаўшчына", БНФ „Адраджэнне", ТБМ... Потым доўгі час рэдакцыя працавала ў будынку па вуліцы Брыгідскай (Карла Маркса, 11). Зараз у абодвух гэтых дамах размясціліся розныя гандлёвыя крамы, якія настварала мясцовая наменклатура. Хоць, калі адбывалася апошняе высяленне „Пагоні", гаварылася пра аварыйны стан будынка.

20 гадоў — не такі вялікі тэрмін, але, здаецца, прайшла цэлая эпоха. Асабліва, што датычыць тэхнічнага кампанента журналісцкай працы. Зараз і самому цяжка асэнсаваць тагачасны працэс: як пераважна пісалі мы яшчэ ад рукі, нашы тэксты набірала машыністка, фатограф мусіў паспець зрабіць чорна-белыя фотаздымкі, многія матэрыялы дасылаліся ў рэдакцыю звычайнай поштай, у лепшым разе факсам. Камп'ютарная тэхніка толькі ўваходзіла ў шырокае карыстанне і была яшчэ досыць прымітыўнай.

Веру, што 25 гадоў „Пагоні" мы адсвяткуем у вольнай краіне...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Уладзімір СІДАРУК

# І так бывае

Прыйшла доўгачаканая вясна. Для мяне, непаседы, гэта роскаш — роварныя вандроўкі, сустрэчы з сябрамі. Веласіпедныя «эскапады» станоўча ўздзейнічаюць на форму чалавека. У маім выпадку сустрэчы з сябрамі гэта новыя тэмы для допісаў. І ўсё так добра складалася, калі раптам... трах-барах! Выпадак... Але раскажу ад пачатку.

У пятніцу паехаў я на рыначак у Чаромху. У знаёмага агародніка з Плятэрава купіў сакавітых яблык. Абмяняліся мы з прыяцелем навінкамі. Сябрук заявіў, што едзе ў Амерыку да ўнучкі на „камунію”. Білет на самалёт ужо купіў.

— А я на ровары збіраюся гуляць, — кажу кампаньёну з усмешкай. — Па лясных сцежках-дарожках прыпушчанскіх вёсак...

Надвор'е ў пятніцу стаяла цудоўнае. Сонечныя прамені цешылі душу. Вярнуўшыся дамоў, праведаў яшчэ Міхася, што жыве пры канцы вёскі. Ён — далейшы сваяк. Разам мы на чаромхаўскай станцыі працавалі, у Брэст і Высокае разам падарожнічалі. Міхась — душа-чалавек. На яго можна спадзявацца бы на Завішу. Ягоная жонка, Марыся, гарбатай пачаставала (так робіць пры кожнай сустрэчы). У кампаніі прасядзелі больш гадзіны часу. Паўспаміналі мінулыя будні юнацкіх гадоў ды забавы, якія арганізавала калісьці моладзь на вёсках. Не прамінулі нагоды, каб не „пераважаць” і апошняй імпрэзы, якая бурлівым рэхам пракацілася ў наваколлі. А тычыцца асвячэння адрамантаванай кузаўскай святліцы. На адвячорку паехаў я яшчэ на вёску, каб аформіць „апошнія гаспадарчыя справы”. Узяўшы ў калегі банку „свойскага” малака ад кароўкі, ды забяспечыўшыся ў аднавяскоўца пад свята некалькімі кілаграмамі свежанькай свініны, падаўся я дамоў. Заляглі першыя поцемкі. Замігцелі лямпачкі вулічнага асвятлення. Заехаўшы праз адкрытую браму на панадворак, спыніўся пры верандзе ды пачаў здымаць з ровара багаж. І раптам нага пахіснулася на прыступцы. Грымнуў я плячыма на лесвіцу. Выпадак здарыўся вокамгненна перад уваходнымі дзвярыма. Закрычаў я на ўсё горла, быццам зямля пада мною праваліласяя. Выскачылі з хаты сямейнікі. Паспрабавалі мяне падняць на ногі. Не мог я варухнуць целам. Неабходная была лекарская дапамога. Павезлі мяне ў Гайнаўку на выратавальнае аддзяленне. Зрабілі ў шпіталі рэнтгэнаграфію.

— Паламаная ключыца, — заявіў артапед і дадаў: — Чатыры-шэсць тыдняў прыйдзецца панасіць, пакуль зажыве.

Пры развітанні перадаў накіраванне ў артапедычную кансультацыю. І так мы апоўначы вярнуліся дамоў.

У панядзелак прапісаўся я ў рэгістрацыі, а ў аўторак паехаў з дачкою на кансультацыю. У артапедычнай прыёмнай наведвальнікаў было няшмат. Паспеў якраз на вызначаны час. Справу афоміў за дзесяць хвілін. Артапед паглядзеў хворую руку і рэнтгенаграму на камп'ютарным дыску і заявіў без запінкі:

— Пасля першых святаў (значыць, каталіцкага Вялікадня — У.С.), прыедзеце на агляд. Усё будзе добра...

З аптымістычнай думкай, што справа так добра канчаецца, ліфтам спусціўся ў шпітальную пачакальню. І тут спаткаў знаёмага сябру па рабоце, сімпатычнага дзевяностагадовага дзядулю з Дашоў, які прыехаў з „парубаным” пальцам да хірурга. З ім збіраюся правесці размову ды паўспамінаць пра даўнейшае жыццё. Сустрэў таксама Міхала Врублеўскага, былога войта Чаромхаўскай гміны. Прывіталіся пасяброўску, не глядзеўшы на даўнейшыя спрэчкі.

— Ды што ў Чаромсе чуваць? — паціскаючы з усмешкай руку загаварыў спадар Врублеўскі.

— Залежыць дзе вуха прыкласці, — кідаю ў адказ суразмоўцу. — Аддзяленне мытнікаў ліквідуюць. Адмянілі маршруты рэйкавых аўтобусаў у Высокае... Чыгунку хочуць узарваць...

У гэты час да кампаніі далучаецца знаёмая жанчына з Чаромхі.

— О, пан Міхал... Як жа ваша здароўе? — кідае ў бок Врублеўскага. Гэты паджэнтльменску цалуе ў руку жанчыну, затым ветліва адказвае:

— На пенсіі па хваробе знаходжуся. Свой грош маю... Якасьці жывецца... Як не адменяць закону, дык у шэсцьдзесят гадоў пайду на заслужаны адпачынак, калі ўстановяць пенсіянерны ўзрост на 67 гадоў, тады вымушаны буду чакаць да 64-гадовага ўзросту, бо зараз шасцідзесяцігадовага дзядка ніхто не прыйме на працу.

Так вось канчаецца мой аповед аб непрадбачаным няшчасным здарэнні, якое спасцігла мяне перад Вялікаднем. Але нічога не зробіш. Так мусіла быць. У жыцці ўсяляк бывае...

# АБ'ЯВЫ

З цыкла: размовы аб ...
рэгіёне Белавежскай пушчы

**Зраўнаважанае развіццё ў рэгіёне Белавежскай пушчы**

**сустрэча з Д-р Артурам Міхалоўскім**

**Лекцыя:** Зраўнаважанае развіццё абапёртае на веды ў адзінках тэрытарыяльнага самаўрада.

**Дыскусія:** Мэты зраўнаважанага развіцця абапёртага на веды ў Гайнаўскім павеце.

29.03.2012 г. гадз. 18:00

Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка”
Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2

**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!**

## Конкурс

Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве арганізуе конкурс пад лозунгам „Наша гняздо”, мэтай якога з'яўляецца запіс легенд, успамінаў, сямейнай хронікі, мінулага мясцовасці, прадпрыемства, установы, школы, парафіі, помніка даўніны, гістарычнага аб'екта, парку, некраполії і т.п. Конкурсныя працы трэба дасылаць да 30 красавіка 2012 года на адрас: GOAKiR, ul. Szkolna 2, 16-113 Szudziałowo. Больш падрабязная інфармацыя на сайце www.szudzialowo.e-kultura.pl

## Папраўка

У „Ніве” № 13 ад 25 сакавіка 2012 г. на старонцы 5 пад допісам ***Уражанні ад фестывалю*** па тэхнічных прычынах прапала імя і прозвішча аўтара, а быў ім **Віктар БУРА**. У аўтара і чытачоў просім прабачэння.

Рэдакцыя

# 01.04 — 07.04

**(22.03. — 20.04.)** Можаш тупнуць нагой дома, ды пасля будзе ідылія. З 6.04. (да 10.04.) магчымыя канфлікты (не ўяўляй таго, чаго няма!). Твая рашучасць прынясе патрэбны вынік, але не бяры на сябе новых абавязкаў (да святаў). У першай палове красавіка твае агрэсіўныя паводзіны могуць адвярнуць ад цябе людзей; гайданка настрояў.

**(21.04. — 21.05.)** Паспяхова выкарыстаеш сваю інтэлігентнасць, каб памножыць капітал. Спрыт і талковасць дадуць табе дарогу да фінансавых поспехаў, наладзіш новыя знаёмствы (вельмі прыдатныя для часовых мэтаў). У пары шмат зменіцца на плюс. У фінансах можа атрымацца відны прыбытак, але і страты ад аднаго маленькага рашэння. Аж да 19.04. можаш быць рассеяны і слабаваты; не расцярушвайся на драбязу, трымайся здалёк ад пляткароў і інтрыганаў.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш у выдатным настроі, прыцягнеш да сябе грошы, удачы, папулярнасць. Ад 4.04. твае справы рушаць з месца. Цяжка будзе выбраць з прапаноў. У першай палове месяца наладзіш важнае супрацоўніцтва, падпішаш дамову, кантракт, які дазволіць стаць табе на ногі.

**(23.06. — 23.07.)** Не трац часу на драбязу. Працуй, бо шмат можаш зрабіць, а яшчэ больш выйграць. Мусіш высветліць уласныя справы. Дасі рады шмат дасягнуць, асабліва ў першай палове месяца. Да 1-4.04. можа падвесці цябе хтосьці блізкі і няхоцькі можаш увяліцца ў клопаты, а поўня Месяца 6.04. можа цябе крыху расстроіць, ускладніць сямейныя і працоўныя справы.

**(24.07. — 23.08.)** Аж да 19.04. не пакіне цябе добры настрой. Сонца падмацуе тваё здароўе. Карыстацца будзеш папулярнасцю. У грашах свае справы вазьмі ў свае рукі. Пільнуй папераў і кашалька. З 7.04. (да 11.04.) дробныя турботы могуць вырасці да рангу невырашальных!

**(24.08. — 23.09.)** Зоркі змабілізуюць цябе да новых задач. Добры момант падпісваць дамовы. Твой козыр — умеласць схільваць людзей да сваёй асобы і задум. У здароўі будзеш прыкладам як дбаць аб кандыцыю. Лепш не бяры нічога ў доўг!

**(24.09. — 23.10.)** Адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, выплывеш на шырокія воды, здабудзеш шмат цікавых інфармацый, перажывеш файную прыгоду, асабліва ў падарожжы. Ад людзей атрымаеш шмат цеплыні і падтрымкі, а ў сяброўстве не будзе ніякай фальшывай ноты, а праца прынясе задавальненне. Ды Сатурн будзе старацца цябе абмежаваць, ускладніць справы, асабліва да 19.04.

**(24.10. — 22.11.)** Засяродзься на павышэнні кваліфікацый або пашукай новай працы. Не абмяжоўвайся да таго што маеш. У здароўі больш апасак, чым рэальных праблем. Самотныя Скарпіёны будуць шукаць ідэалу. Ахвотней будзеш выдаваць, чым ашчаджаць. Твая інтэлігентнасць і куслівы досціп схіляць да цябе людзей, хоць некаторыя будуць баяцца тваёй ацэнкі.

**(23.11. — 22.12.)** У пары наступяць прыгожыя дні. Калі жывеш з бацькамі, пара пачаць даваць сабе рады ў адзіночку (заўжды можаш на іх разлічваць). Могуць паявіцца магчымасці зарабіць такія вялікія грошы, што табе і не снілася! Пастарайся адкласці заробленае. Працы шмат, але дасі сабе рады і даможашся поспеху.

**(23.12. — 20.01.)** На працы паставіш перш за ўсё на добрую атмасферу, не будзеш гнацца за грашом. У каханні будзеш прагны; чакае цябе вялікая папулярнасць. Пераканаешся, якую вялікую падтрымку маеш у блізкіх. 1-4.04. будзеш прымушаны да цяжкіх выбараў; не дазваляй маніпуляваць сабою, ад сябе не патрабуй немагчымага.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш закахацца хутка і без памяці! У фінансах не рашайся неабдумана; на шчасце лёс падсыпле грошай. Больш за працу будзе цябе цікавіць кампанейскае жыццё. У здароўі хутчэй нейкая боязь, чым сапраўдная прычына для турбот.

**(20.02. — 21.03.)** Прыемная атмасфера дома. На працы ахвотна возьмешся за новыя выклікі, але пры свабодзе дзеянняў. Не пагражае табе банкруцтва, а паразы могуць быць таксама трамплінам да поспеху! Гэта ты будзеш даваць парады па здароўі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** росчына для самагонкі... на поўначы Партугаліі, **2.** лодка з парусам, **3.** літаратурнае прозвішча Самуіла Плаўніка, **4.** шыкоўны сябра фізкультуры, **5.** вузкая шчыліна паміж бярвёнамі, **6.** горад на паўночным усходзе Румыніі, **7.** лацінаамерыканскі мужык, **8.** вялікі горад на заходнім узбярэжжы Каспійскага мора, **9.** малая авечка, **10.** сірыйскі горад між Дамаскам і Хамай, **11.** горад на Волзе ў Цвярской вобласці, **12.** дзяржава Хрысціны Фернандэс, **13.** гандлёвая ўстанова арыентальнага характару; у Беластоку пры вуліцы Кавалерыйскай.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | | | |
| | | | | | | | 3 | | |
| | | | | 4 | 5 | | | | |
| 6 | | | 7 | | | 8 | 9 | | |
| | | | | | | 10 | | | 11 |
| | | | | 12 | 13 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — іспанская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Кажа важак, наматаў атаман.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Гаворка** і **Уладзіміру Ахрымюку** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.



■Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Дзень Волі ў нашых школах

**25 сакавіка Дзень Незалежнасці святкуюць беларускі і грэчаскі народы. Нашыя чытачы ведаюць, што ў гэты дзень у 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, а ўжо мала хто ведае, што 25 сакавіка 1821 года ўспыхнула грэчаскае нацыянальнае паўстанне супраць 400-гадовай турэцкай акупацыі і была абвешчана незалежнасць Грэцыі. Зараз у Грэцыі 25 сакавіка дзень вольны ад працы. А ў Рэспубліцы Беларусь, хаця святкаванне Дня Волі забароненае, адзначаюць яго малодшыя і старэйшыя, нават пад пагрозай арышту і звальнення, калі выходзяць пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Бяспечна могуць святкаваць дзень стварэння БНР беларусы па-за межамі Рэспублікі Беларусь і традыцыяй стала ўжо святочнае адзначанне 25 Сакавіка ў Бельскім і Гайнаўскім белліцэях, Гайнаўскай і Бельскай белгімназіях.**

Аднак у кожнай з гэтых школ святкаванні праходзяць па-свойму. Сёлета ў комплексах школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім ладзіліся ўрачыстыя лінейкі, у час якіх вучні выступілі са слоўна-музычнымі мантажамі, а ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім традыцыйна арганізаваліся турнір, кулінарны конкурс і агляд фільмаў у рамках сустрэчы з рэжысёрам Міколам Ваўранюком. Канешне, ва ўсіх згаданых школах на ўроках вучні маюць нагоду пагаварыць пра стварэнне БНР у 1918 годзе.

23 сакавіка ў Бельскім белліцэі адчуваўся святочны настрой. На школьных калідорах былі расклееныя плакаты аб Беларусі, а моладзь рыхтавалася да святкавання Дня Волі.

— Для нас, настаўнікаў, адзначанне Дня Волі падобнае да тых з мінулых гадоў. Але ж з кожным годам у першыя і другія класы прыходзяць штораз то новыя вучні і для іх турнір, ці кулінарны конкурс, гэта зусім новыя прапановы, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. — Лягчэй таксама перагаварваць нацыянальныя вартасці, спалучаныя са святкаваннем Дня Волі, калі ўсе вучні заангажаваныя ў час мерапрыемства, у час конкурсаў і гульняў.

Вучні другіх класаў пачалі рыхтавацца да кулінарнага конкурсу, расстаўляючы на сталах мясцовыя стравы. На прыгожа прыбраных сталах ляжалі варэнікі, бульбяная кішка, квашаныя агурцы, аладкі, піражкі з капустай і грыбамі, вясковы пірог і хлеб, селядцы, грыбныя катлеты. Былі таксама кісель, кампоты і многа іншых страў. У гэтым годзе амаль не было мясных вырабаў, якіх больш можна было заўважыць у час кулінарных конкурсаў у мінулых гадах. Белліцэісты, упрыгожваючы сталы, пакарысталіся нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцяжкамі, ручнікамі з народнымі матывамі, кветкамі. На некаторых сталах паставілі іконы. Вучні класа ІІ „а" апрануліся нават у стылізаваныя на даўнюю вопратку ўборы і пускалі з магнітафона даўнія песні.

— Дзень Незалежнасці — вельмі важнае нацыянальнае свята і адначасна свята нашай школы, — гаварыла Анна Пагрэбняк з ІІ „а" класа. — Разнародныя стравы дапамагалі нам падрыхтаваць нашыя бабулі і бацькі, а ўсё, што вы тут бачыце, вельмі смачнае.

— Калі мы бачым тое, што дзеецца ў Беларусі, трэба тым болей падтрымліваць святкаванне Дня Незалежнасці, — дадалі Малгажата Пугач і Ева Банькоўская з ІІ „а" класа.

— 25 Сакавіка важнае нам, бо мы, святкуючы Дзень Незалежнасці, вяртаемся да гістарычных падзей 1918 года. Паколькі мы лічым сябе беларусамі, то гэта наша гісторыя, — заявіла Юстына Нікалаюк з ІІ „ц" класа. Яе сяброўкі Аніта Яблушэўская і Магда Грыгарук таксама звярнулі ўвагу на смачныя стравы на стале, якія чакалі ацэнкі конкурснай камісіяй.



— У нас скромна, але посна, — сказаў Рафал Марковіч з ІІ „д" класа, які разам з сябрамі прэзентаваў стравы. — Паколькі мы лічым сябе беларусамі і гаворым з бацькамі па-беларуску, Дзень Волі гэта важнае для нас свята.

Аляксандра Семянюк з ІІ „б" класа таксама звярнула ўвагу на сваю беларускую нацыянальнасць, што, паводле яе, забавязвае святкаваць 25 Сакавіка як нацыянальнае свята Беларусі і стала пералічваць смачныя стравы на стале свайго класа.

— Вельмі важна, што мы ў час конкурсу вучымся ад бацькоў выконваць традыцыйныя стравы, якія зараз рэдка можна спаткаць, — дадала Аляксандра Семянюк.

Пасля спрабавання страў членамі конкурснай камісіі і на падставе выгляду прыгожа прыбраных сталоў было вырашана, што першае месца атрымаў ІІ „а" клас, другое месца — ІІ „б" і ІІ „ц" класы, а трэцяе месца — ІІ „д" клас.

— Стравы вельмі смачныя, а моладзь вельмі добра падрыхтавалася да кулінарнага конкурсу, цудоўна прыбіраючы сталы, — заявіла настаўніца беларускай мовы і член камісіі Яўгенія Таранта.

Толькі частка вучняў другіх класаў займалася прэзентацыяй мясцовай кухні. Іншыя іх сябры і ліцэісты з трэціх класаў пайшлі на сустрэчу з рэжысёрам і тэлежурналістам Міколам Ваўранюком, у час якой мелі перш за ўсё магчымасць паглядзець фільмы.

— Вельмі цікавай была сустрэча з Міколам Ваўранюком. Гледзячы яго фільмы, мы пазнаёміліся з Оршай і месцамі, дзе ўзрастаў Караткевіч і з тым, як праходзілі прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, — сказалі Анна Андрусевіч і Кацярына Шурбак.

Святкаванне ў Бельскім белліцэі завяршыў турнір для вучняў першых класаў. Моладзь спявала школьны гімн „Люблю наш край, старонку гэту", паказала пастаноўку беларускіх казак, прыняла ўдзел у конкурсе ведаў аб Беларусі і Дню Незалежнасці, прэзентавала плакаты „Беларусь у маіх вачах", рабіла рэкламу сваіх класаў і прыняла ўдзел у спартыўным спаборніцтве.

І „б" клас выканаў плакат з вялікім вокам, у сярэдзіне якога відаць контуры Беларусі, бел-чырвона-белы сцяг і прыгожую дзяўчыну з яснымі валасамі. Іншыя плакаты таксама былі на свой спосаб цікавымі. Цікавай атрымалася прэзентацыя казак, бо маладыя людзі стараліся зацікавіць сваіх сяброў не толькі сваім акцёрствам, але выступалі таксама ў адмысловай вопратцы, напрыклад, стылізаванай на вясковую, ці ў адзенні спецыяльна выкананым для прадстаўлення. Белліцэісты стараліся развесяліць публіку, хаця гэта не заўсёды ішло ў пары з ацэнкай турнірнай камісіі. Пасля падвядзення вынікаў аказалася, што перамог у турніры І „б" клас, другое месца заняў І „д" клас, трэцяе месца — І „ц" клас і чацвёртае месца І „а" клас. Нацыянальны настрой узмацнялі бел-чырвона-белыя сцягі, што луналі над галовамі вучняў і такія ж сцяжкі, якія ліцэісты трымалі ў руках.

У Гайнаўскім белліцэі ўрачыстая лінейка з нагоды Дня Незалежнасці была наладжана 26 сакавіка. Прапанова на гэты раз выйшла ад вучняў, а канкрэтна ад вучнёўскага самаўрада. Ліцэісты з І „б" класа самі прынялі на сябе адказнасць наладзіць школьную ўрачыстасць, а іх класны выхавацель Ірэна Грыгарук папрасіла дапамогі ў настаўніцы беларускай мовы Анны Каліноўскай. Рэпетыцыі адбываліся пад наглядам класнага выхавацеля Ірэны Грыгарук і настаўніцы Анны Каліноўскай, якая падрыхтавала матэрыял для слоўна-музычнага мантажу. Белліцэісты ўдала справіліся з задачай у час урачыстага мерапрыемства, што адбылося ў актавай зале ў прысутнасці шматлікіх вучняў. Частка выступаючых, яшчэ будучы белгімназістамі, ладзілі лінейку з нагоды 25 Сакавіка і цяпер выступілі як больш вопытныя акцёры. Белліцэісты дэкламавалі патрыятычныя вершы, расказвалі пра падзеі, што давялі да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, гаварылі пра рашэнні, якія былі абвешчаны ў незалежнай дзяржаве і ўспаміналі аб паслядоўнасцях беларускага нацыянальнага ўздыму, а таксама спявалі патрыятычныя песні — „Пагоня", „Сцяг", „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і „У гушчарах". Узнёслы характар урачыстасці ўзмацнялі бел-чырвона-белыя сцягі і гербы „Пагоня" развешаныя і расстаўленыя ў актавай зале.

— Мы святкуем Дзень Незалежнасці і хацелі б, каб і ў Беларусі вучні маглі святкаваць сённяшняе свята, — сказала ў канцы ўрачыстасці намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя Ніна Лукасік і падзякавала вучням за выступленне. Паставіла таксама ліцэістам некалькі пытанняў наконт 25 Сакавіка, каб праўдзіць, што маладыя людзі ведаюць аб гэтым святкаванні.

— Для нас Дзень Незалежнасці Беларусі — важнае свята. Беларусь нам як радзіма, а мы жывем непадалёк ад мяжы з ёю. Мы ведаем аб праблемах, якія ёсць у Рэспубліцы Беларусь і якімі жывуць там маладыя людзі, — сказала белліцэістка Аляксандра Лемеш. — Лінейка гэта добрая форма святкавання, бо ўсе ўрачысты, патрыятычны характар даваляе ўзнёсла правесці час. Можна таксама іншых пазнаёміць з гістарычнымі падзеямі, якія спадарожнічалі стварэнню Беларускай Народнай Рэспублікі.

— Асабліва нам падабаюцца патрыятычныя песні, якія мы спяваем супольна, — сказала ліцэістка Уршуля Граматовіч.

— Раней пра святкаванне Дня Незалежнасці ведаў я з артыкулаў у „Ніве" і перадач па радыё і тэлебачанні. Цяпер ёсць нагода святкаваць, бо гэта ж нашая беларуская гісторыя і традыцыя, — заявіў белліцэіст Андрэй Шарэйка.

Белгімназісты з Гайнаўкі адзначалі Дзень Волі, прымаючы ўдзел у конкурсе аб БНР, які адбыўся 26 сакавіка.

— Я падумала, каб святкаванні для белгімназістаў арганізаваць крыху інакш, чым гэта было раней, калі яны таксама ладзілі ўрачыстую лінейку. Падрыхтавала вялікую колькасць пытанняў наконт гістарычных падзей 1918 года, паўстання БНР, герба, сцяга і прапаноў наконт гімна Беларусі і таксама перадала вучням адказы на гэтыя пытанні. Да конкурсу прыступілі па 5-6 вучняў з кожнага класа белгімназіі, а мы з настаўніцай беларускай мовы Іалантай Грыгарук падрыхтавалі ўзнагароды для пераможцаў спаборніцтваў, — сказала настаўніца Анна Каліноўская, якая была адказнай за конкурс. — Мы таксама і маладым людзям у Беларусі паказваем, што трэба святкаваць Дзень Незалежнасці сваёй краіны, а Дзень Волі, гэта таксама добрая нагода разбуджваць нацыянальную свядомасць у беларускай моладзі, хаця ў гэтым плане яркраз найбольш можна зрабіць у сямейным крузе. У бельскай „тройцы" ўрачыстая лінейка са слоўна-музычным мантажом адбылася з нагоды Дня Волі таксама 26 сакавіка.

ISSN 0546-1960